PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (2140) Год XLII Беласток 18 мая 1997 г. Цана 1 зл.

# Юбілей арлянскай царквы

Праваслаўе прыйшло на польскія землі разам з місіяй святых Кірылы і Мяфодзія пад канец IX стагоддзя, яшчэ перад расколам хрысціянства на праваслаўны і лацінскі касцёлы. На Беласточчыне праваслаўе з'явілася разам з падпарадкаваннем зямель над Бугам і верхняй Нарвай кіеўскім князям, пры панаванні якіх прыйшло сюды рускае засяленне. Прыхадская структура Праваслаўнай царквы канчаткова ўфармавалася ў перыяд Вялікага княства Літоўскага ў XIV—XVI стагоддзях.

Першую царкву ў Орлі пабудаваў падскарбі літоўскі Міхал Богуш Багавіціновіч, уладальнік гэтай мясцовасці ў 1510—1558 гадах, прадстаўнік старога рускага роду з Валыні. Царква св. Сімяона Стоўпніка — драўляная на каменным фундаменце — стаяла ў цэнтры Орлі, пры ўездзе з боку Бельска і праўдападобна пратрывала на гэтым месцы да 1747 года. Заснавальнік гэтай царквы Міхал Богуш Багавіціновіч 12 лістапада 1529 года саставіў тастамент, у якім загадаў сваё цела пасля смерці пахаваць у Пячэрскім манастыры ў Кіеве, а душу аддаваў у апеку м.інш. св. Іаану Багаслову і архангелу Міхаілу — святым, якія да сённяшняга дня застаюцца нябеснымі заступнікамі Арлянскага прыхода (у гонар св. Іаана Багаслова 21 мая і 9 кастрычніка адзначаюцца прыхадскія святы, а царква носіць імя Міхайлаўскай).

Пляц, на якім калісьці стаяла першая арлянская царква — старое цэрквіска — ахоўваецца як помнік. На ім у 1989—1994 гадах, дзякуючы намаганням цяперашняга настаяцеля прыхода а. прат. Аляксандра Такарэўскага, была ўзведзена мураваная капліца. Урачыстасць пасвячэння капліцы ў чэсць св. Сімяона Стоўпніка, якая адбылася 16 ліпеня 1995 года, узначаліў Яго Блажэнства, Блажэннейшы Васілій — мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.

Кожны год у першую нядзелю пасля Вялікадня на старое цэрквіска, да магіл салдат з перыяду I сусветнай вайны, прыходзіць хрэсны ход і правіцца паніхіда.

Пасля Брэсцкай уніі, калі многія апекуны цэркваў перайшлі на пратэстантызм, уніяцтва або каталіцызм, абараняць інтарэсы цэркваў сталі царкоўныя брацтвы, але іх дзейнасць не змагла прадухіліць паступовы пераход праваслаўных прыходаў ва унію.

У Орлі ў 1770 годзе рэлігійнае жыццё засяроджвалася пры другой царкве, якая ў 1790 годзе або трохі пазней згарэла. На сродкі прыхаджан і пры намаганнях тадышняга настаяцеля Рыгора Паеўскага ў 1797 годзе быў пабудаваны новы храм, які існуе да сённяшняга дня.

Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Беласточчына, а ў тым ліку і Орля, апынулася пад Прусіяй. Новыя ўлады імкнуліся стварыць на гэтых землях незалежную структуру Праваслаўнай царквы, аднак пераход Беласточчыны ў 1807 годзе ў межы Расіі знішчыў гэтыя планы. У 1839 годзе рашэнне сабора ў Полацку прывяло уніятаў да вяртання, не заўсёды дабравольнага, у Праваслаўную царкву. Арлянскія прыхаджане ўрачыстасць вяртання ў праваслаўе правялі пад наглядам казакаў у царкве ў Чыжах. Тадышні арлянскі настаяцель а. Макавельскі таксама прыняў праваслаўе.

На Беласточчыне ўзніклі новыя прыходы, аднавіліся старыя, пачало развівацца сакральнае будаўніцтва. У канцы XIX стагоддзя Царква адыгрывала вялікую культурна-асветную ролю ў жыцці грамадства. У Арлянскім прыходзе ў пяці аднакласных царкоўных школах дзеці і моладзь вучыліся грамаце, рэлігіі, царкоўным спевам. Прыхадскі кліp карыстаўся 49 дзесяцінамі зямлі. У 1863 годзе Арлянскі прыход прыналежаў да прыходаў 4-га класа. У 1867—1870 гадах была пабудавана могільнікавая царква св. св. Кірылы і Мяфодзія.



Многім прыходам цяжкі ўдар нанёс 1915 год. Узмацняў яго страх перад сустрэчай з немцамі. Царская армія аб'явіла эвакуацыю і тады большасць праваслаўнага насельніцтва падалася ўглыб Расіі. Праваслаўныя свяшчэннікі заклікалі вернікаў уцякаць перад немцамі. Тлумачылі, што пакідаючы ворагу пустое месца, яны выконваюць патрыятычны абавязак перад Расіяй і царом. У жніўні 1915 года разам з жыхарамі Орлі выехаў а. Пётр Краснікаў.

Да выбуху I сусветнай вайны ў арлянскай царкве знаходзіліся тры каштоўныя іконы: св. Феадосіі, св. Мікалая і копія вядомага абраза Кіева-Пячэрскай Божай Маці, а ў могільнікавым храме св. св. Кірылы і Мяфодзія былі званы. У часе вайны царкву замянілі на збожжавы склад. Да 21 кастрычніка 1921 года ў Орлі не было настаяцеля.

Міжваенны перыяд у Орлі характарызаваўся палітычнай актыўнасцю яе праваслаўных жыхароў і яе дэструктыўным уздзеяннем на сферу рэлігійнай свядомасці.

Пасля II сусветнай вайны наступіў таксама даволі складаны перыяд у царкоўным жыцці: у 1944—1953 гадах змянілася дзевяць настаяцеляў. Такая дэзарганізацыя прыхадскога жыцця выклікала палітычную дэзарыентацыю сярод вернікаў.

З 8 жніўня 1962 года душпастырскую апеку над вернікамі Арлянскага прыхода нясе а. Аляксандр Такарэўскі — цяперашні настаяцель, які ў 1971 годзе атрымаў званне протаіерэя. Людзі паважаюць яго за сумленнасць і добрае адміністраванне прыходам. З 1996 года настаяцелю дапамагае вікарый а. прат. Анатоль Такаюк.

Сёлета каштоўны помнік духовай і матэрыяльнай культуры, якім з'яўляецца Міхайлаўская царква ў Орлі, адзначае двухсотую гадавіну яе адбудовы пасля пажару. Прыхадское свята Іаана Багаслова (21 мая †997 года) будзе з гэтай нагоды вельмі ўрачыстае і ўзнёслае. Орлю наведае мітрапаліт Васілій, вернікі з суседніх прыходаў і іншыя госці, а таксама журналісты.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Толькі паховіны

**Аляксандр Вярбіцкі**

Дарога ў Паўднёвы Востраў — быццам тыя сем вёрст да нябёс — амаль уся лесам. За Супраслю асцерагальны знак агульнай небяспекі з паясненнем знізу „Uwaga! Pies"; нават нейкі страх ехаць далей. У Трасцяным ці Талькоўшчыне побач старой хаты-развалюхі вялікі стэнд з надпісам „Coca-Cola" — такі тутэйшы сімбіёз старога з новым. Ад асфальтавай крынкаўскай шашы, з Паўночнага Вострава ў Паўднёвы — брук. Абедзве вёскі — тыповыя для цяперашняй нашай Беласточчыны — запушчаныя. Царква тамака — нейкая сумная, быццам адлюстроўвае лёс свайго прыхода. Упоперак вуліцы ў Паўднёвым Востраве — роў, вымашчаны брукам. Заглядаю на солтысаў панадворак — гаспадар, малады, нямнога за трыццаць на выгляд, накідае гной. Спацеў, праца на гаспадарцы цяжкая. Хвіліна перадышкі, бо няма часу. Пытаю пра той роў. Мелі, калі планавалася палажыць асфальт, пабудаваць масток, але няма асфальту, то і няма мастка.

Падаюся далей. На вуліцы, у халодны тады красавіцкі дзень, пуставата, але калі заглянуць на панадворкі, нейкі там рух ёсць. Заходжу да Яўгенія Жамойды, рыхтуецца ён нешта на полі рабіць, але адводзіць мне байкаваты шмат часу. Гаспадар абсявае поле яравою пшаніцай, аўсом, ячменем; збожжа будзе не толькі на корм, але будзе і лішак, які пойдзе на продаж. Корму трэба нямала, бо гадуюцца тут малочнае быдла, бычкі, свінні; ёсць свая свінаматка, парасяты. Сельскагаспадарчыя прадукты скупляюцца па аўторках у Шудзялаве і па чацвяргах у Крынках. Цяжка цяпер нешта прадаць, вельмі мала плацяць. Калі восенню авёс каштаваў 38 зл. за метр, то цяпер і 30 не возьмеш, пшаніца была па 60, цяпер менш чым па 50. Вазіў у Шудзялава, Крынкі, Гарадок, Міхалова. Людзі арыентуюцца ў цэнах: бульбу раней прадаваў па 18, а цяпер то і па 16 не бяруць — гаворыць што ў Беластоку *садзэнякі* па 12...

Пытаю пра вясковую статыстыку. У вёсцы стаіць каля пятнаццаці пустых хатаў, мо з шэсць ужо раскіданы, заселеных яшчэ трыццаць дзве, новых зусім няма. У школу ходзіць пяцёра дзяцей, трое з іх — солтысавы. Хаця Паўднёвы Востраў у Крынкаўскай гміне, дзеці вучацца ў Шудзялаве, бо раней школа была ў Паўночным Востраве, які ў Шудзялаўскай гміне. Старых дзевак у вёсцы няма, старых кавалераў чатырох, апошнія паўміралі ад перапою.

Згадваю пра сумную царкву. Царква гэтая пабудавана пасля вайны, бо тая, што была раней, у вайну згарэла.

[працяг ☞ 3]

# Мы прачыталі

*Senator Henryk Czarnocki, którego policja zatrzymała w czasie jazdy po pijanemu (miał we krwi 1,8 promila)— oznajmił policjantom: „Kto pije i płaci, honoru nie traci". Poseł Janusz Malinowski z SLD po spowodowaniu wypadku po pijanemu twierdził, iż wypił lekarstwo na spirytusie. Miał we krwi 2,3 promila.*

*Gazeta Wyborcza, nr 95*

* * *

*Język polityczny epoki Gomułki nie był językiem opisu, wymiany informacji czy debaty. Nie nazywał rzeczywistości wprost. Nie mieliśmy np. strajków, zdarzały się tylko „niekontrolowane przerwy w pracy", ani cenzury, była „kontrola prasy". Nie istniała opozycja, tylko „wybryki określonych elementów przestępczych". Gdy w sierpniu 1980 r. siadały naprzeciw siebie dwie delegacje, państwowa i robotnicza, zanim dogadały się „jak Polak z Polakiem", najpierw musiały ustalić, jakim językiem będą ze sobą rozmawiać. W czerwcu 1989 r. obudziliśmy się w nowej Polsce i okazało się, że brakuje nam słów, którymi moglibyśmy nazwać zachodzące procesy, te zaś, które znaliśmy zostały wcześniej doszczętnie skompromitowane. Samo słowo „polityka" było podejrzane, podobnie jak „partia". Dlatego nowe partie nazywały się uniami, porozumieniami, konfederacjami itp. Była bodaj tylko Partia Przyjaciół Piwa.*

*Polityka, nr 17*

* * *

*Marian Krzaklewski oraz liderzy regionów „Solidarności" podpisali dokument, w którym projekt konstytucji porównali do „bolszewickiej nawałnicy" z 1920 r. Referendum majowe zatem ma być rozstrzygającą bitwą.*

*Gazeta Wyborcza, nr 96*

* * *

*Człowiek ma już taką naturę, że jak nie dostanie w mordę, to nie zrozumie. Janusz Bryczkowski — lider partii Polski Front Narodowy prędzej czy później obejmie w kraju władzę. Do władzy wyniosą go kije baseballowe, kastety, pięści skinów. Wykorzystam w sposób bezwzględny brutalny patriotyzm młodzieży. Będą trybunały, polecą łby. Nie w przenośni, ale dosłownie,* — twierdzi Bryczkowski.

*Kurier Poranny, nr 101*

* * *

*Wiaczesław Nikonow, wnuk Wiaczesława Mołotowa twierdzi, że zostanie prezydentem Rosji w 2008 r. Karierę polityczną rozpoczął w epoce pierestrojki jako wydziałowy sekretarz partii Uniwersytetu Moskiewskiego. Wkrótce został najmłodszym w ZSRR, 32-letnim doktorem habilitowanym historii. Jego dysertacja dotyczyła ewolucji Partii Republikańskiej w USA, ale bezlitosny osąd amerykańskiego imperializmu nie uśpił czujności rodzimych internacjonalistów. Zgniły Zachód młody badacz poznał wyłącznie teoretycznie: za granicę wypuszczono go tylko raz i tylko do Polski. Jego dziadek był odpowiedzialny za mord setek tysięcy ludzi. Za to wyrzucono go z partii w 1957 r. ale tę karę anulował mu dwa lata przed śmiercią w 1984 r. ówczesny sekretarz Konstantin Czernienko. Feliks Czujew napisał, że Mołotow nie wiedział, co to wyrzuty sumienia, strach przed odpowiedzialnością, ból istnienia. Jak gdyby amputowano mu w mózgu ośrodki uczuć wyższych. Wnuk Mołotowa Wiaczesław Nikonow wysoko ceni zasługi dziadka dla Związku Radzieckiego. Sam cieszy się opinią urodzonego polityka, wykształconego, dobrze ułożonego, rozważnego. Obecnie jest jednym z najbliższych współpracowników wicepremiera Anatolija Czubajsa.*

*Gazeta — Magazyn, nr 16*

* * *

*Нават у расійскай інтэлігенцыі, у расійскіх палітычных лідэраў засталося тое, што ва ўсім свеце на звычайнай чалавечай мове называецца імперскім сіндромам. Магчымасць атрымаць у якасці давеска да неахопнай Расіі яшчэ і маленькую Беларусь з'яўляецца тою спакусай, тою правакацыйнай ідэяй, якую паспяхова супрацьстаўляе прэзідэнт Лукашэнка ўсім дэмакратычным пераканаанням Ельцына і ягонага акружэння... Масква хворая на шавінізм, хворая на імперскія амбіцыі. Гэта засцілае вочы, затуманьвае розум нават дэмакратычным расійскім лідэрам.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 15*

* * *

*Występując gościnnie na Kongresie Białoruskiej Partii Socjaldemokratycznej senator SLD Ryszard Jarzembski powiedział, że Aleksander Łukaszenko jest podobny do Lecha Wałęsy, a polscy postkomuniści przypominają mu białoruską opozycję.*

*Polityka, nr 16*

Любіць жартаваць спадар сенатар.

* * *

*Гаспадарка ў мяне невялікая: куры, два сабакі, два каты.*

*— А знакамітая карова Мілка?*

*Мілка жывая і здаровая. Нават не ведаю, чаму да гэтай беднай Мілкі такая ўвага журналістаў. Пасля ўсіх гэтых размоў і артыкулаў пра яе, яна стала непаслухмянай і ўпартай,* — сказала Галіна Радзівонаўна Лукашэнка, жонка Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, якая жыве і працуе ў Шклове.

*Звязда, н-р 62*

# З мінулага тыдня

**Міжнародная асацыяцыя выдаўцоў газет** паведаміла, што ў 1986—1996 гадах у свеце былі забіты пры выкананні сваіх службовых абавязкаў 500 журналістаў. Толькі летась загінулі 32 карэспандэнты. Акрамя таго 180 журналістаў прабываюць у турмах 22 краін свету. Лідэрства належыць у гэтым плане Турцыі, дзе ў засценках знаходзяцца 78 чалавек, затым ідуць Эфіопія (17), Кітай (17) і Кувейт (15).

**Польшча і Венгрыя** стануць першымі краінамі Усходняй Эўропы, якія далучацца да Еўрапейскага Саюза ў XXI стагоддзі, — заявіў падчас сустрэчы з міністрам замежных спраў **Дарыюшам Расаці** спецыяльны ўпаўнаважаны па справах знешніх сувязей ЕС **Ганс ван дэр Брук**. Па яго словах, у адрозненні ад іншых посткамуністычных дзяржаў, якія падалі заяўку на ўступленне ў Еўрасаюз, Польшча і Венгрыя валодаюць стабільнай эканамічнай базай, аднак кіраўніцтву гэтых краін неабходна правесці шэраг рэформ у сферах справаводства, прыватызацыі і сельскай гаспадаркі, прабелы ў якіх не даюць Польшчы і Венгрыі права разлічваць на ўступленне ў Еўрапейскі Саюз у гэтым стагоддзі.

**Паломніцтва** дзяцей і моладзі па маршруце Беласток—Заблудаў адбылося ўжо пяты раз. Пачалося яно 2 мая пасля багаслужбы ў Свята-Ільінскім прыходзе ў Дайлідах. Па дарозе паломнікі маліліся ў Зверках, дзе нарадзіўся св. Гаўрыіл, памяць якога Царква ўшаноўвае 3 мая. У Заблудаве ў гэты дзень адбылося ўсяночнае чуванне пры мошчах святога. Ва ўрачыстасцях удзельнічалі таксама паломнікі з Бельска-Падляшскага, Гарадка і Міхалова.

**Беластоцкая СДРП** і рэгіянальная структура прафсаюзаў ОПЗЗ спрачаюцца наконт другога месца на спіску кандыдатаў у парламент з Беластоцкага ваяводства. Сацыял-дэмакраты прапануюць, каб на першым месцы балаціраваўся **Уладзімеж Цімашэвіч**; другое месца адводзіцца СДРП, трэцяе і чацвёртае — ОПЗЗ, пятае — БГКТ (кандыдуе **Ян Сычэўскі**), шостае — ППС, сёмае — ЗСП, восьмае і дзявятае — СДРП. Прафсаюзы настойваюць, каб на другім месцы балаціраваўся кандыдат ад ОПЗЗ.

**Ваяводская выбарчая камісія ў Беластоку** падтрымала пратэст Уніі працы, ППС, СДРП і прафсаюзаў ОПЗЗ наконт несумленнай жараб'ёўкі членаў пасялковых камісій па справах канстытуцыйнага рэферэндуму (уладам горада Беластока ставіўся закід, што яны пераважна выцягвалі адмыслова зложаныя карты кандыдатаў правых арганізацый) і загадала неадкладна правесці паўторную жараб'ёўку. Гэтая ж камісія адхіліла пратэсты арганізацый і грамадзян з Гайнаўкі, Чаромхі і Супраслі ў падобных справах.

**Збігнеў Макух** прызначаны камендантам Ваяводскай камендатуры паліцыі ў Беластоку. Раней быў ён намеснікам ваяводскага каменданта паліцыі ў Эльбланγу. Папярэдні камендант **Тадэуш Сэрватка** перайшоў на працу ў пасольстве РП у Кіеве.

**У Раённай пракуратуры ў Беластоку** праводзілася вочная стаўка чатырох жыхароў Гарадка, якія падазраюцца ў пабоях двух мужчын з Валілаў, у выніку чаго адзін з іх, Вячаслаў Ч., памёр. Трох падазроных знаходзіцца цяпер у следчым ізалятары. Падчас следства кожны з падазроных падаваў сваю версію здарэння. Вочная стаўка не развеяла да канца ўзніклых раней сумненняў.

**У Белавежы** адбыўся III Міжнародны адукацыйна-навуковы семінар „Паўзуны Белавежскай пушчы". Удзельнічалі ў ім прыродазнаўцы з Беларусі, Галандыі, Даніі і Эстоніі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Ці існуе ў Беларусі гістарычная навука — размова Міколы Ваўранюка з Алегам Трусавым, палітыкам і гісторыкам з Менска.
- Кіраўніцтва Беластоцкага тэлебачання адказвае на закіды дзеячаў Беларускага саюза.

# Весткі з Беларусі

**Чарнобыльскі кірмаш**

У штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку адбыўся міжнародны чарнобыльскі кірмаш. Арганізатарам мерапрыемства, якое становіцца ўжо традыцыйным, выступіла пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры гэтай арганізацыі. Мэтай правядзення кірмашу быў збор сродкаў для беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, а таксама звярненне ўвагі дэлегатаў краін-членаў ААН і супрацоўнікаў Сакратарыята ААН да трагічных наступстваў буйнейшай катастрофы стагоддзя. Высакародныя мэты дабрачыннага кірмашу знайшлі водгук у многіх місій дзяржаў-членаў ААН, у амерыканскіх грамадзян і кампаній беларускай дыяспары. Яны перадалі для рэалізацыі на кірмашы мастацкія вырабы, сувеніры, кнігі, а таксама даслалі грашовыя ахвяраванні. Сродкі ад правядзення кірмашу будуць перададзены на дапамогу беларускаму дзіцяці, якое захварэла з-за наследкаў чарнобыльскай катастрофы.

**Граніца з Украінай**

Украіна і Беларусь узгаднілі лінію дзяржаўнай граніцы паміж дзвюма краінамі. Дакументы па дэлімітацыі і дэмаркацыі граніцы былі падпісаны дэлегацыямі Украіны і Беларусі 30 красавіка ў Ровенскай вобласці. Згодна з падпісаным пратаколам і ўзгодненымі тапаграфічнымі картамі, агульная працягласць граніцы паміж Украінай і Беларуссю складае 1905,7 км, трэць якой праходзіць па рэках. Гранічныя дакументы будуць яшчэ парафіраваны прэзідэнтамі абедзвюх краін падчас майскага візіту А. Лукашэнкі ў Кіеў.

**Лідэры СНД**

У студзені—сакавіку 1997 г. Беларусь знаходзілася сярод лідэраў па тэмпах прыросту прамысловай вытворчасці ў краінах СНД. Гэты паказчык у Беларусі павялічыўся на 9,8% у параўнанні з аналагічным перыядам 1996 г. і ўступаў толькі Грузіі.

**Польскія мерапрыемствы**

Дні польскай культуры, прысвечаныя Дню канстытуцыі гэтай краіны, праходзілі ў пачатку мая ў Брэсце. На тэрыторыі консульства Рэспублікі Польшча выступілі музычныя калектывы суседняй дзяржавы. У горадзе адбыліся канцэрты вядомых калектываў — ансамбля песні і танца Акадэміі фізкультуры з Белай-Падляшскай і ансамбля „Каралінка". У культурных мерапрыемствах, што праводзіліся польскім бокам, прымалі ўдзел і музычныя калектывы Брэста.

**Мрожэк у Маладзечне**

На чацвёртую ў сёлетнім тэатральным сезоне прэм'еру запрасілі гледачоў акцёры Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне. Трупа паставіла спектакль паводле п'есы вядомага польскага драматурга і празаіка Славаміра Мрожка „Караль". Гэта драматычная клаўнада разлічана не на шырокую публіку, хаця пытанне, што закранаецца ў спектаклі, вельмі актуальнае.

**Аварыя ці дыверсія?**

Прарыў на газаправодзе Захад-Трансгаз здарыўся ва Уздзенскім раёне. Аварыя мела месца на газаправодзе сярэдняга ціску. У выніку падзення ціску спрацавала аварыйная сігналізацыя. Паводле папярэдніх даных разрыў адбыўся з-за фізічнага састарэння газаправода, а ўзгаранне газу — ад леташняй травы, што гарэла паблізу. Маштабы аварыі ўдакладняюцца, ахвяр няма. Расейскае тэлебачанне і іншыя замежныя агенцтвы ў сваю чаргу паведамілі, што газапровод быў узарваны Беларускай вызвольнай арміяй — невядомай да гэтай пары арганізацыяй, якая такім чынам пратэстуе супраць інтэграцыі Беларусі з Расеяй. Гэтая самая арганізацыя ўзяла на сябе адказнасць за абстрэл ноччу з 1 на 2 красавіка г.г. расейскага пасольства ў Менску.

**Металургі дантыстам**

Магілёўскі металургічны завод закупіў у амерыканскай фірме дзве спецыялізаваныя зубаўрачэбныя ўстаноўкі, якія зводзяць да мінімуму нязручнасць пры лячэнні зубоў. Кожная навінка каштавала 17 тысяч долараў. Металургі падумалі не толькі пра сябе. Для новай гарадской стаматалагічнай паліклінікі набылі яшчэ сем камплектаў падобнага абсталявання.

# Толькі паховіны

[1 ☞ *праця*г]
Ездзілі ў Крынкі разбіраць жыдоўскія хаты і з іх пабудавалі царкву. Чарнеў тынк, прыехаў нейкі будаўнічы эксперт і сказаў, што той тынк трэба памяняць. Пару гадоў таму стары тынк здзерлі і паклалі новы, але ён ізноў чарнее. Царкву наведваюць толькі старыя, але і ў іх здароўя ўжо няма хадзіць. Здаўна ўжо тут няма ні шлюбаў, ні хрысцін — толькі паховіны.

У Жамойдаў трое дзяцей. Старэйшая дачка замужам у Лідзбарку за Альштынам, матушкай; прыход там невялікі, а і людзі не вельмі да яго горнуцца: калі нешта не на іх думку, заяўляюць аб адыходзе да ксяндза. Другая дачка ў Беластоку, выходзіць замуж. Сын вучыцца ў Тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі, але не выяўляе намеру пераняць бацькоўскую гаспадарку.

* * *

Заходжу ў крайнюю хату; гаспадар яе, як раней я даведаўся (бо на нашай вёсцы ўсе пра ўсё ведаюць), з'яўляецца чытачом „Нівы". Калі я назваў сваё прозвішча, ён адказаў, што пра такога не чуў, але калі я толькі на хвіліну выйшаў за сваімі прыборамі, ён за той час праверыў і ўстанавіў, што ўсё ў парадку. Асцярожны быў не толькі ён, але асабліва яго сястра з горада, якая настойвала, каб пра нішто мне не гаварыць. Быў яшчэ і сусед, ну і неяк разгаварыліся. Размова пайшла ад беларускіх журналістаў тамашняга хову. З Паўднёвага Вострава Юрка Хмялеўскі, галоўны рэдактар „Часопіса", і Міхась Хмялеўскі, былы старшыня ГП БГКТ, і... жонка Сакрата Яновіча.

— Яна з Вострава, Хомчыкава, а Яновіч з Крынак, — гавораць мне.

Пытаю пра дэмаграфію вёскі.

— Менш за сотню будзе: праваслаўных за пяцьдзесят, а каталікаў менш, але тут ксяндза няма. Войт казаў, што Курыя можа даць, але наўрад ці нам; каб што кепскага зрабіць, то пастараліся б. Так і з брукам: калі б камуна яшчэ *рок* пабыла, то і асфальт быў бы аж у Гураны. Усё Валэнса забраў, з Бальцаровічам; а цяпер яны да *рольнікаў*, каб на іх галасаваць.

— Але цяпер ужо правяць другія, то павінна было паправіцца, — прыгадваю.

— Прыйшлі другія, але старыя голас маюць. Кваснеўскі да *папежа* паехаў! Калі быў Гарбачоў у *папежа*, то ў нас у святліцы гаварылі: хай паспявадае, а Расея прападзе.

Школа ў вёсцы была пабудавана ў 1949-м годзе, царква — у 1952-м; людзі будавалі. Войт хацеў школу прадаць, але вяскоўцы паставілі ўмову, каб і ім нешта з гэтага было, бо што ім за карысць, калі ён тратуары ў Крынках паложыць. Ну і так школа далей стаіць пустая.

На заканчэнне гаспадар запрашае мяне паглядзець кадаўбец; ён з суцэльнага тоўстага пня.

— Быў тут калісь адзін з нейкага беластоцкага музея, як той кадаўбец пабачыў, то аж яму вочы засвяціліся, каб яму яго аддаць. Але я рашыў перадаць яго ў Беларускі музей. Калі будзеце бачыць Майсеню, скажыце яму пра гэта.

Выходзім з хаты глядзець той кадаўбец.

— Як у вас гавораць, — пытаю: — *клуня* ці *гумно?*

— Калісь гаварылі *гумно*, але цяпер ужо гавораць *стадола.*

Кадаўбец сапраўды ўражвае, трэба доўгія рукі, каб яго абхапіць.

Выходзім з гумна; прыглядаюся на слупы па-суседску па такім жа суседавым збудаванні.

— А ведаеце, чыё гэта? — пытае мяне гаспадар.

— ?

— Крацевага *вуйка.*



*Слупы па раскіданых будынках — тыповы элемент краявіду ў наваколлі Крынак (здымак з вёскі Рудакі).*

але каталікаў больш на вёсцы застаецца. Большасць выехала ў гарады, найбольш у Беласток — там мякчэйшы хлеб. Цяпер праблемы; з самога *рольніцтва* не *выдзержаць*. Нацягнулі з-за граніцы, а наша на *высыпіско.* Такое настаўленне, каб нас знішчыць.

У вёсцы калодзежы на вуліцы, нямнога іх, і таму згадваю пра водаправод.

— Вада ў нас глыбока — 33 кругі да вады, і ў цэлай вёсцы мо з дзесяць студняў будзе. Каб камуна пабыла яшчэ тры месяцы, то і вада была б! Валэнса забраў ваду... І ў Паўночным Востраве вады няма, да вёскі водаправод дацягнулі і кінулі. Дзе ксяндзы памагалі,

* * *

Вярнуўшыся дадому, пераліставў я Стары Запавет, шукаючы там правіл пабудовы храма. Не знайшоў іх, але напалася мне другое: як прыносіць у ахвяру жывёлы. Мусяць гэта быць першынцы без заганы (Другазаконне, 15:19). Значыць добраякасныя і ў першую чаргу. Ды і будаўнічы матэрыял хіба, па аналогіі, павінен быць добры і новы...

Часта чуем расказы пра нейкія цуды; можна ў гэта верыць або і не — людзі ўсяляк гавораць. А калі добра прыгледзецца, можна і самому іх пабачыць.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*

# Яшчэ пра кліента і пана

У 15 нумары „Нівы" ад 13 красавіка г.г. была надрукавана публікацыя Міколы Ваўранюка „Пра кліента і пана". Паколькі яна тычыцца майго артыкула і праблем у ім кранутых, хачу выказаць свае меркаванні.

Паважаны аўтар так канстатуе: „Не магу пагадзіцца са спадаром Сідаруком наконт культуры абслугоўвання і, проста, звычайнай ветлівасці персаналу. Не здараецца цяпер наогул, каб прадавец ваўком кідаўся на кліента. Але ж мы і на тратуарах не кідаемся адзін на аднаго з кулакамі. І за гэта ніхто нікому не дзякуе. Таму я не бачу патрэбы дзякаваць прадаўцу за яго нейтральнасць за прылаўкам".

У сваім артыкуле „Кліент — наш пан" („Ніва" № 13 ад 30 сакавіка г.г.) я паказаў, проста, змены, якія адбыліся ў нашым гандлі за апошнія гады, і як прыватны гандаль прыманьвае кліента. Не стану якраз спрачацца наконт культуры абслугоўвання кліента. Я — звычайны рабацяга. У справах этыкі не вельмі разбіраюся, аднак маю свае погляды наконт „звычайнай ветлівасці". І вось што скажу. Я ўжо з дзяцінства прывык, што калі заходжу ў нейкую ўстанову ці нават краму, заўсёды кажу „дзень добры". Таксама „дзякуй", калі атрымліваю ад чалавека нейкую рэч. (У той час не разлічваю, ці адкажуць на мае прывітанні, ці не). Бо так мяне бацькі вучылі. Спадар Ваўранюк так піша: „Калі ўваходзіш у краму, даеш ад дзвярэй „дзень добры", то не заўсёды гэтае самае пачуеш у адказ. А калі ўжо, дык як вялікую ласку. Ні разу не здарылася мне, каб прадавец першы прывітаўся).

Паважаны спадар Ваўранюк! Як бачу, у нас з вамі розныя погляды наконт ветлівасці. Я чалавек „старой даты", не раз'язджаўся па заходніх краінах, а навуку „пераймаў" ад бацькоў і з уласнага жыцця. А пакойны татуль мне казаў, што першым вітаецца той, хто ў памяшканне заходзіць, таксама як і тое, што жыццё дае нам найлепшую адукацыю. Не лічу сябе старэчам, аднак на працягу свайго 57-гадовага жыцця і звыш 35-гадовай прафесійнай працы, меў магчымасць нешта ўбачыць у народзе і ўзяць з гэтага адпаведны ўрок. Гэта праўда, што ў нас яшчэ не хапае звычайнай ветлівасці на штодзень. Ды не толькі ў крамах, на вуліцы. На рабоце таксама. Каб усё было „ідэальна", не мелі б мы праблем у жыцці. Жылі б, проста, у раю. На жаль, трэба апусціцца на зямлю і жыць у сучасным свеце.

Вы, паважаны спадар Ваўранюк, хочаце мне даказаць, што толькі ў Рыме, Парыжы і Лондане можна сустрэць „сапраўдных" купцоў і сутыкнуцца з „сапраўднай" абслугай кліента. Як прыклад апісваеце пакупку ботаў на „невялічкай жыдоўскай вуліцы". І ў тым месцы я з вамі не згаджаюся. Няўжо ж у нашай краіне няма сапраўдных купцоў і добрых тавараў? А так, дарэчы, каго вы называеце „сапраўдным купцом", ці таго жыда, што вам чаравікі прадаў, якімі карыстаецеся дагэтуль? Такія крамары і ў нас траплялiся яшчэ пры камуне. Прывяду прыклад. Спадарыня Яўгенія Гаўрылюк (якую мы проста называлі „пані Геня", працавала ў кляшчэлеўскім ГСе. У шасцідзесятых гадах у яе хаце змяшчалася прадуктовая крама, у якой яна працавала. Пані Геня дбала пра сваю краму. Так яе забяспечвала таварамі, што кліент усе справункі афармляў за адзін раз. Траплялася, што чалавек прыходзіў у краму і часам забываў, што мае купіць. Пані Геня яму прыгадвала: „А мо вам запалкі патрэбны? Супы ў парашках у мяне добрыя... хлеб яшчэ свежанькі... а можа солі ў хаце няма..." — шчабятала прадаўшчыца. І калі нават нейкі тавар камусь на той час не быў патрэбны, купляў яго, бо не мог адмовіцца. Хто меў мала грошай у кашалёчку, а побач крамы праходзіў, баяўся туды зайсці, бо казаў, што „пані Геня намовіць і грошы выманіць".

Зараз спадарыня Яўгенія Гаўрылюк на пенсіі, аднак пры кожнай нагодзе не адзін чарамшук ставіць яе ў прыклад цяперашнім крамарам. Такіх прадаўцоў у нашай Польшчы пэўна і зараз можна сустрэць.

А цяпер наконт тавару. Я згодны з тым, што ў нашым гандлі знаходзіцца шмат танных і няякасных вырабаў. Не абазначае аднак гэта, што такія толькі тавары ў нас прадаюцца.

Стаім напярэдадні ўваходу ў заходнія структуры і Еўрапейскі Саюз. Абазначае гэта, што нашы палітычныя і гаспадарчыя перамены належна ацанілі на захадзе. Аб гэтым сведчаць апошнія выступленні знатных палітыкаў і бізнесменаў у Рыме, Парыжы і Лондане, не кажучы ўжо пра нямецкіх суседзяў.

На маю думку, гэта нешта значыць. Каб у нашай Польшчы сапраўды была бесталкоўшчына ў галіне гаспадаркі, хто б захацеў нас узяць за партнёраў у Еўрасаюз? Нават такая Аўстрыя памяркоўна ставіцца да нашага аб'яднання з уніяй, бо бачыць Польшчу з яе рынкам як канкурэнта для сваіх тавараў.

І справа апошняя. Вы пішаце так: „Можна вышыкаваць не проста краму, а салон, можна прывесці са свету ўсё найлепшае, ды так і не навучыцца як след абыходзіцца ні з таварам, ні з людзьмі". Калі б вашы словы, паважаны спадар Ваўранюк, сур'ёзна ўзялі да сэрца ўсе гандляры, бізнесмены і вытворцы, не адзін з іх на вас пэўна пакрыўдзіўся б. Бо мне здаецца, што не ўсіх можна аднолькава ацэньваць. Да таго, што я прачытаў у вашай рэпліцы „Пра кліента і пана", не застаецца мне нічога больш, як прывесці словы народнай прымаўкі: — Cudze chwalicie, swego nie znacie, sami nie wiecie, co posiadacie. А кажуць, што прымаўкі з'яўляюцца мудрасцю народа. **Уладзімір Сідарук**

# Провады ў Пухалах

У суботу, 3 мая — перад самымі провадамі — была сарганізавана чарговая аўтобусная пілігрымка на магілы закатаваных у 1946 годзе бандаю „Бурага" беларускіх вазакоў з-пад Гайнаўкі і Бельска. Каля сарака сямейнікаў ахвяр, разам з настаяцелем Чыжоўскага прыхода а. Янам Раманчуком, памаліліся на месцы злачынства — каля вёскі Пухалы-Старэ і на каталіцкіх могілках у Кліхах, куды астанкі пабітых былі перавезены пасля праведзенай у 1951 годзе эксгумацыі.

Міністр па справах ветэранаў Адам Дабраньскі абяцаў Грамадскаму камітэту сем'яў забітых вазакоў, што ў гэтых двух месцах на дзяржаўныя сродкі будзе праведзена эксгумацыя. Астанкі нявінных ахвяр будуць перавезены ў Бельск і пахаваны ў праваслаўным абрадзе на вайсковых могілках. Прадбачаны тэрмін эксгумацыі і перапахавання вазакоў — у палове чэрвеня. Пра дамоўленасць з міністрам сем'і вазакоў даведаліся менавіта ў час гэтай пілігрымкі.

Наведалі яны таксама супольную магілу 24 жыхароў Заняў, якіх два дні пазней таго страшнага здарэння была пастраляла тая самая банда. Бацюшка Раманчук адслужыў паніхіду таксама за супакой іхніх душаў. **М. В.**

# Цана кампрамісу

Нядаўна беларускае тэлебачанне паказала аднаго з лідэраў апазіцыйнага Беларускага народнага фронту Юрыя Хадыку падчас нейкай сустрэчы журналістаў з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Невядома чаго Хадыка шукаў у прэзідэнцкіх палацах. Пасля выезду Зянона Пазьняка на эміграцыю быў ён адным з найбольшых аўтарытэтаў для ўсіх грамадзян Беларусі, якія адкідалі аўтарытарную ўладу ў выглядзе прэзідэнтуры Лукашэнкі. Адважна перанёс ён турэмнае зняволенне за ўдзел у мінулагоднай дэманстрацыі для ўшанавання памяці ахвяр чарнобыльскай катастрофы, часта паўтараў, што кожны сумленны чалавек у сённяшняй Беларусі павінен апынуцца ў турме. І раптам бачым Хадыку, як у пакорлівым тоне ставіць пытанне прэзідэнту, быццам бы гаварыў да агульнашанаванага палітыка, які ўсур'ёз успрымае апазіцыйных дзеячаў. Хадыку дазволілі гаварыць 2 мінуты, адказ прэзідэнта прадоўжыўся да 24 мінут і ў большасці яго змест не меў нічога супольнага з пытаннем. Наступнага дня рэжымныя сродкі масавай інфармацыі аб'явілі свету, што Лукашэнка сустрэўся і размаўляў з апазіцыйным палітыкам, намеснікам старшыні БНФ. Прэзідэнт, аказалася, не дыктатар, а нармальны дэмакратычны палітык.

Хадыка, а раней іншыя дзеячы дэмакратычнага накірунку забыліся пра прынцыпы савецкай дэмакратыі, дзе нешта такое як кампраміс зусім не існуе. Ва ўсходняй традыцыі выступаюць толькі два варыянты палітычных суадносін — працаўнік і падданы. Пасрэдныя формы тут не выкарыстоўваюцца. Шушкевіч так доўга трымаўся пры ўладзе, пакуль дзейнічаў згодна з інтарэсам незалежнай Беларусі, але калі толькі падпісаў дакументы, што адкрывалі дарогу да „інтэграцыі", выкінулі яго як непатрэбны прадмет. Тое ж самае адбылося і з апошнім старшынёй Вярхоўнага Савета, Сямёнам Шарэцкім. Пакуль ён голасна гаварыў свету, што дзеянне прэзідэнта парушае законы і нормы дэмакратыі, ніхто яго не кранаў, але калі ў прысутнасці прэм'ер-міністра Расіі Віктара Чарнамырдзіна падпісаў славутае пагадненне з Лукашэнкам, праз два тыдні мог ужо толькі дэманстраваць на вуліцы і плаціць штрафы за парушэнне парадку. Савецкая традыцыя не пераносіць людзей, якія маглі б мець сваё меркаванне ў нейкай справе, таму ўсялякіх Шушкевічаў, Шарэцкіх, Фядутаў, Ягоравых падмяняецца Шэйманамі, Замяталінамі, Лінгамі, Антановічамі ці Кебічамі, якія без непатрэбных пытанняў выканаюць кожны загад вярхоўнага органа ўлады. Хадыка, які размаўляў непасрэдна з Лукашэнкам, дазволіў выкарыстаць сябе як элемент у рамках таталітарнай прапаганды, якая мае толькі адну мэту — служыць дыктатару.

**(рэд.)**

# Грамадскім чынам

Беларускае тэлебачанне паінфармавала, што па ініцыятыве прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў краіне аднаўляюцца забытыя ўжо суботнікі. Малодшым чытачам „Нівы" паясняю, што суботнікі — гэта не рэлігійная секта, а толькі працоўны дзень у суботу, з якога прыбытак прызначаўся на нейкую высакародную ідэю — на дапамогу таварышам з В'етнама, Мазамбіка, Нікарагуі, на павышэнне тэмпаў развіцця сацыялізму, ці проста для дэманстрацыі адданасці ідэі камунізму ўсяго савецкага грамадства. Суботнікі аб'яўляла „вядучая сіла" з нагоды 1 мая, гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, з'езда партыі ці для ўшанавання дня нараджэння нейкага таварыша, заслужанага бальшавіка. Паводле савецкіх сродкаў масавай інфармацыі, падчас такіх суботнікаў усе грамадзяне вялікай краіны ахвотна працавалі зусім дарма, таму што ўсе любілі партыю і яе кіраўніцтва. Не выпадала тады аставацца глухім на заклік партыі. Дарэчы, органы дзяржбяспекі хутка пераконвалі тых, якія ў нечым сумняваліся.

У Польшчы такая праца называлася грамадскім чынам. Паколькі суботы ў сацыялістычнай Польшчы да васьмідзесятых гадоў былі працоўнымі днямі, тады партыя аб'яўляла „агульнанацыянальны грамадскі чын", найчасцей у нядзелю. Кожны грамадзянін узрастаў у прысутнасці лозунгаў накшталт „праца — найвышэйшым дабром чалавека", „праца — сродкам самарэалізацыі чалавека", „праца — метадам выхавання чалавека". Тады гэтыя лозунгі больш раздражнялі, чым каго-небудзь пераконвалі. Сапраўднай працай лічылася ўсялякая фізічная дзейнасць, інтэлектуальная была як бы падазронай. Сёння пад лозунгам „праца — найвышэйшым дабром чалавека" падпішацца праўдападобна кожны, каму скончылася „куранёўка".

Дзень агульнанацыянальнага грамадскага чыну найбольш эфектыўна выглядаў у тэлебачанні. Першы сакратар партыі ў белай кашулі, пад гальштукам, з лапатай у руках падкідаў нейкі пясочак, прэм'ер-міністр садзіў дрэўца, генералы, міністры і знакамітыя вучоныя прафесары, акцёры, пісьменнікі, мастакі проста расплываліся ад шчасця, стоячы з ломам у руках. „На чын" хадзілі таксама сяляне, хаця іх зрэдку паказвалі ў тэлебачанні. Ніякім атракцыёнам не быў вобраз рабочага люду падчас фізічнай працы. На вёсках, найчасцей для ўшанавання 1 мая ці 22 ліпеня, гмінныя ўлады аб'яўлялі нейкую красавіцкую нядзелю як тэрмін рамонту дарогі. На ідэю, якая выклікала гэтую актыўнасць, мала хто звяртаў увагу. Найчасцей, пакуль з'явілася першая бутля, удалося нават засыпаць некалькі лужынаў, пасля ўжо толькі засыпаліся равы ўсялякімі шклянымі ўпакоўкамі. Праца ліцэістаў была наогул дэфіцытнай і ў сапраўднасці ператваралася ў школу вандалізму.

Інакш грамадскі чын выглядаў, калі нейкая праца была неабходнай з пункту гледжання насельніцтва. Шмат дамоў культуры, вясковых клубаў, дарог было пабудаваных не таму, што партыйныя ўлады захацелі ўшанаваць нейкіх сваіх святых, але таму, што такія аб'екты агульнага карыстання былі патрэбны грамадству.

Сёння дарма працаваць ніхто не хоча. Ідэя грамадскіх чынаў адышла разам з сацыялізмам. Кожнае дзеянне цяпер пералічваецца на грошы. Нават у грамадска-палітычным жыцці найчасцей актыўныя толькі тыя арганізацыі, якіх лідэры атрымліваюць ганарары за кожнае прапагандысцкае выступленне. Таму часам некаторыя дзеячы, калі толькі знойдуць адпаведную аўдыторыю, паўтараюць тыя самыя фразы ў такім самым парадку некалькі разоў у тыдзень. За кожным разам робяць гэта пад шыльдай грамадскай актыўнасці і адданасці грамадству.

**Яўген Мірановіч**

# Цэнтр лазернай медыцыны

У Беластоку, пры вуліцы Ажэшкі (Orzeszkowej 15) 30 красавіка афіцыйна адкрыта Беластоцкі цэнтр лазернай медыцыны. На ўрачыстасці прысутнічаў Генеральны Консул Рэспублікі Беларусь Міхаіл Слямнёў. Спачатку гэтая прысутнасць здзівіла мяне, аднак пазней выяснілася, што новая ўстанова з'яўляецца сумесным міжнародным творам беластачан, віцяблян і масквічоў. Пастаўленая тут тэхніка — з Масквы. Прадстаўнік фірмы, якая выпускае лазеры медыцынскага прымянення, Валеры Чулкоў паведаміў мне, што яны з'яўляюцца прадуктам выключна расейскай тэхнічнай думкі. Варта тут прыгадаць, што першыя лазеры збудавалі савецкія фізікі Басаў і Прохараў, за што, разам з амерыканцам Тоўнсам, атрымалі ў 1964 г. Нобелеўскую прэмію. Лячэбныя лазеры шырока прымяняюцца ў Расеі; прадуктамі фірмы спадара Чулкова лечылі нядаўна і самога прэзідэнта Ельцына. Такія цэнтры, які арганізуецца ў Беластоку, існуюць ва ўсіх больших гарадах Расеі, а цяпер вось, напрыклад, плануецца аснасціць імі ўсе расейскія пасольствы за мяжою. У Беларусі сітуацыя падобная, а вядучым тут асяродкам з'яўляецца цэнтр у Віцебску, дзе расейцы сур'ёзна намяваюцца стварыць філію маскоўскай Акадэміі лазернай медыцыны. Вось з Віцебска ў Беласток і перадаюцца веды і вопыт у гэтай галіне: там вось прывучаўся беластоцкі персанал, сюды цяпер прыехалі і віцебскія спецыялісты для нагляду за пускам цэнтра.

Беластоцкі цэнтр у першую чаргу мае намер засяродзіцца на лячэнні бясплоднасці і другіх захворванняў гінекалагічнага характару, бо амаль палова жанчын хварэе, найчасцей на эрозію (*nadżerkę*). Апрача гэтага лазер будзе прымяняцца для лячэння слыху, рэўматызму, барадаваак, апёкаў, ліквідацыі татуіроўкі а нават аздараўлення хворых эпілепсіяй. (Да ўсяго гэтага можна яшчэ дадаць, што на днях пабачыў я ў тэлегазеце нямецкага тэлеканала DSF інфармацыю пра прышчэпку валасоў на лысеючай галаве пры дапамозе лазера; гэтаму лячэнню паддаліся галівудскія супермены Кевін Костнэр і Сільвестр Сталоўн). Лячэнне лазерам мае над іншымі метадамі тую перавагу, што не пакідае следу — небяспечных зростаў, якія пазней могуць стаць прычынай анкалагічных захворванняў. Да таго ж лазер не прычыняе болю. Больш складаных аперацый, як ліквідацыя язваў страўніка ці шрамаў пасля інфаркту, у Беластоку пакуль што не плануецца.

Як сказаў дырэктар Цэнтра Фабіян Цірук, гэтая камерцыйная ўстанова ў будзённыя дні будзе працаваць ад 9-й да 18-й гадзіны; па суботах — да 14-й. Свайго тэлефона, пакуль што, няма.

Прыемна ўразіла мяне, што наша „Ніва" — Цэнтру не чужая:

— Z „Niwy" to ja znam Sokratesa Janowicza, — пахвалілася мне кілаграмістая дама ў акулярах. А дырэктар Фабіян Цірук — гэта, выявілася, крынкаўскі сусед Сакрата Яновіча. Пры нагодзе мог я паслухаць і зводку навейшых навін:

— Wczoraj piorun uderzył w dom Janowicza, — усхвалявана апавядала мне жонка дырэктара. — Tego to ja nie widziałam, ale dzwoniła moja sąsiadka i mówiła, że jak uderzyło, to jej domem tak zatrzęsło, jak nigdy. Więc na pewno uderzyło w dom Janowicza, bo on ma piorunochron.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Зь Вялікоднага архіпастырскага пасланьня

**Архіепіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалая**

Хрыстос Уваскрос!

Дарагія Браты і Сёстры! Сьвяткуючы ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, мы жывём таксама ў пярэдадні усяцэлага ўваскрасеньня нашага Беларускага Народу. Бо так як Ісус Хрыстос прайшоў праз зьдзек і быў бязь віны засуджаны ўладамі гэтага сьвету на сьмерць праз укрыжаваньне, гэтак і наш народ уладамі гэтага сьвету зьняволены. Дзеля гэтага ня трэба кідацца ў роспач, але наадварот яшчэ мацней трэба трымаць свае шэрагі й рашуча ісьці да свас мэты, каб у нашай краіне, Сьвятой Беларусі, уладарылі ня здраднікі, а тыя, хто любіць Беларусь.

А нам, дарагія браты й сёстры, не пачынаць, а прадаўжаць працу вызваленьня, каб кожны з нас мог сказаць: мы, беларусы аднавілі сваю прыгожую кветку, Сьвятую Беларусь. У веры ў Бога і ў свой народ, габрэі вытрымалі два тысячагодзьдзі. Так і наш народ глыбока ў сэрцы сваім перахоўвае дух свабоды, веру ў Хрыста і веру ў сваё ўваскрасеньне. Ворагі нішчылі наш народ фізычна, вырывалі зь яго сьвядомасьць беларускую, але наш народ памятаў словы Госпадавы: „Праўда вызваліць вас". Кожнага году на Вялікдзень па ўсёй Беларусі людзі віталі адзін аднаго словамі „Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Ўваскрос!" І мы дачакаліся ласкі Божае: народ наш адраджаецца і ўваскрасеньне ягонае немінучае. Абудзіўся свабодны дух і ўмацавалася вера ў Госпада Ісуса Хрыста, бо-ж Ён уваскрос! Дарагія мае, уваскрэсьне і наша сьвятая Беларусь, уваскрэсьне сьвятая Беларуская Праваслаўная Царква, у якой наш народ на сваёй сьвятой беларускай мове будзе славіць Усемагутнага Бога і ўсіх сьвятых. Вітайма-ж адзін аднага ў дзень сённяшні словамі радасьці й перамогі: „Хрыстос Уваскрос!" І разам зь незабыўным Сяргеем Палуянам вітайма ўвесь народ свой: „Зь вялікім сьвятам віншую Цябе! Зь вялікім сьвятам, вялікі несьмяротны Беларускі Народзе!"

**Хрыстос Уваскрос! —**
**Сапраўды ажыў!**

*Вялікдзень 1997 г.*
*Таронта, Канада*

# Што захоўвае Бельская зямля?


*Прэзідыум семінара: Крыстына Бенькоўска, Яўген Вапа і Дарафей Фіёнік.*

Вясной мінулага года ў рамках культурна-адукацыйнай праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа" Беларускі саюз у Польшчы арганізаваў дыскусію: „Беларусы Бельшчыны ўчора і сёння". У час яе прафесар Юры Лабынцаў з Масквы сказаў: „Бельск — гэта сапраўднае сэрца памежжа. Тут сутыкаліся Усход з Захадам. У сярэдневякоўі слава пра яго ішла далёка за межы Рускай зямлі, па ўсёй Еўропе. На жаль, не захаваліся пісьмовыя крыніцы таго часу. Самая слаўная гісторыя Бельска дрэмле ў зямлі, чакае археолагаў".

Сёлетні, II Міжнародны дыскусійны семінар „Беларусы Бельскай зямлі" быў прысвечаны, менавіта, археалогіі і сярэднявеччу. Праходзіў ён 1-2 мая, у гэтай самай зале бельскай ратушы. Прысутныя на ім археолагі і гісторыкі з Менска, Гродна і Беластока падсумавалі ранейшыя археалагічныя доследы Беласточчыны і Гродзеншчыны — адзінага, незалежна ад сённяшніх палітычных падзелаў, фізіка-геаграфічнага і культурнага арэала, — вызначылі галоўныя задачы даследчыкам гэтай зямлі на бліжэйшы час і склалі планы супольнай іх рэалізацыі.

Адно з важнейшых пытанняў, якое ставілася ўдзельнікам канферэнцыі пад развагу, было такое: ці можна сёння ўстанавіць этнічнае паходжанне раннесярэднявечнага засялення? Ці археалогія можа вызначыць этнічную прыналежнасць захаваных на Беласточчыне курганоў ці пахаванняў у каменных абкладах? Генадзь Семянчук з Гродзенскага універсітэта перасцерагаў перад прызнаваннем тэорыі нямецкага археолага Густава Касіны пра ўзаемасувязь археалагічных культур з тэрыторыямі канкрэтных народаў і плямён. Гэтая тэорыя выкарыстоўвалася нацыстамі, якім пошукі калыскі германскіх плямён на ўсходзе дастаўлялі аргументы дзеля экспансіі немцаў на ўсход. Гэтым самым метадам доўгія гады паслугоўваліся таксама польская і савецкая археалогіі, толькі шукалі не германцаў, а славян.

Навейшыя здабыткі археалогіі і этналогіі даказваюць, што тэорыя Касіны была памылковай. Захаваныя археалагічныя помнікі з'яўляюцца ўсяго фрагментам пэўнай культуры, а не яе поўным адлюстраваннем. Прафесар Збігнеў Кабыліньскі з Варшавы (раскопваў гарадзішча ў Гацьках) даказваў, што археалогія павінна адмовіцца ад традыцыйных пошукаў „пракалысак" розных народаў і не прымаць удзелу ў бягучых нацыяналістычных спрэчках аб праве розных груп на пэўныя тэрыторыі. У раскрыванні гістарычнай карціны павінен дамінаваць навуковы аб'ектывізм.

— На Беласточчыне сем тысяч археалагічных стаянак, — сказала ваяводскі захавальнік археалагічных помнікаў Крыстына Бенькоўска, — амаль палова з іх была даследавана. Каля трохсот археалагічных пунктаў занесеных у спіс помнікаў культуры. Адзін са старэйшых помнікаў — гэта гарадзішча ў Бельску, якое хавае ў сабе яшчэ многа невядомага.

Наведанне гарадзішча — замкавай гары — выклікала бурную дыскусію сярод навукоўцаў і ўзмоцніла іх перакананне ў неабходнасці яго даследавання. Сарганізаванне міжнароднай навуковай экспедыцыі па раскопках бельскага гарадзішча і некаторых старых вуліц горада ды атрыманне на гэты праект гранту ад міжнародных фондаў — гэта галоўны заключны тэзіс канферэнцыі. Падпісаліся пад ім удзельнікі сустрэчы, частка якіх дэкларавала зацікаўленне справай сваіх устаноў. А гэта, між іншым: Інстытут археалогіі ў Варшаве, Кафедра этналогіі і музеязнаўства Універсітэта культуры ў Менску, Інстытут археалогіі і этналогіі ў Менску, Кафедра беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, Ваяводскі захавальнік археалагічных помнікаў у Беластоку, Беларускае гістарычнае таварыства.

Сярод іншых задач, якія можна і трэба ажыццявіць у бліжэйшы час, удзельнікі канферэнцыі назвалі: перавыданне складзенай Фёдарам Пакроўскім археалагічнай карты Гродзенскай губерні, выданне каталога „Драгічынскія пломбы", выданне дакументацыі раскопак Суража, якая, праўдападобна, знаходзіцца ў Гродне, стварэнне банка інфармацыі пра расцярушаную па архівах гістарычную дакументацыю доследаў Падляшша (асабліва багатыя зборы знаходзяцца ў Санкт-Пецярбургу, Маскве і Вільні).

Калі пачне працу навуковая экспедыцыя ў Бельску, у Гарадскім музеі, які змяшчаецца ў ратушы, павінна быць абсталявана пастаянная экспазіцыя мясцовых археалагічных знаходак, — настойвалі арганізатары канферэнцыі, бяльшчане Дарафей Фіёнік і Яўген Вапа. Невядома толькі, што на гэта скажуць гарадскія ўлады, бо, на жаль, ніхто з магістрата не прысутнічаў на канферэнцыі, палічыўшы, відаць, археалогію *a priori* безнадзейнай нудотай.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Юркі Паплаўскага*


*У час канферэнцыі: Лукаш Сцепанюк (старшыня БАСу), Збігнеў Раманюк (Браньск) і а. Рыгор Сасна.*

## Запрашэнне

**Беларускае аб'яднанне студэнтаў запрашае на вечарыну з Сакратам Яновічам і канцэрт Віктара Шалкевіча, якія адбудуцца 15 мая 1997 г. а гадз. 17⁰⁰ у будынку Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, вул. Лінярскага 4.**

# Сідарава шарада

Урэшце даў волю словам Сідар Макацёр, ці як яму там, Юрка Зубрыцкі або Георгій Белавежац... Раней, праўда, мог сваімі словамі ўсю „Ніву" і „Белавежу" задрукаваць, каб ано хацеў, а то глодаў глыжы слоў разам з пачаткоўцамі і „майстрамі літаратуры". Такі вялізны і моцны, а чамусьці ціхенька чорны занятак усхваляў. А цяпер, во, мусіў папрасіцца ў вялікага Іаана Чашніка, каб яму даў тыя 73 старонкі задрукаваныя і сем чыстых (не лічачы вокладак) у „Бібліятэчцы „Белавежы""! На кніжыцу „Макатразмаў", якая з вялікім лішкам хаваецца ў лапе белавежска-беластоцкага велікана, які ўсё хоча ўціснуцца ў сціплейкую скурку. Мала такіх, што аруць і сеюць, садзяць дрэвы вялікія, доўга растучыя, перасыпаюць шэрыя і чорныя літары ў залатыя, а ў вялікасць не пнуцца. А нават вокладку Сідар сам запраектаваў, як кажа „Сэрцайка", такую, што *и дешево, и сердито*! А чамусьці сам пытаецца: *Ці я труцень, ці араты*?! Твая кніга, Сідару, хоць маленькая, то як той сувой у святога Іаана: спажываеш — салодкія, з'ясі — пачуеш горыч. Чытаеш, бачыш майстэрства слова і думкі, задумаешся: горкая праўда...

Вазьміце ў рукі гэту маленькую ды дарагенькую кнігу *Макатразмаў* усе. Найбольш тыя, што бачацца святымі ў сваіх, вядома, вачах і ў одах паклоннікаў. Убачыце. У тэлеграфна кароткіх „Факсах", на „Цераспалосіцы", у „Гасцёўні", „Наводшыбе". „Шчырыя беларусы", „мядова-ўюновыя сябрукі", „краты-кратовічы", „старыя другі", „эйфарысты", „вечныя", „п'едэстальскія", „nobliwe паўліны", „свінні" і „дацэнты", „еўрапейцы" і „змаганцы"... Не „вожыкавым" прасцецкім пяром, а быццам бы далікатным разцом, гравіраваным словам і фразай. Здаецца, аж шкада, што ў першую хвіліну, беручы такую кніжачку падпісаную „такім" прозвішчам, думаеш убачыць якуюсьці „сатырычную сатыру", да якой мы прывыкаем, нейкую рыфмаваненькую, просценькую ў вочы, скажам, бюракратаў ды паскудных ворагаў нашай праўды. Не іголкай такіх, а таўкачом! Канкрэтна, але ж вельмі адлегла. А калі пра канкрэтных асоб, якіх можна расшыфраваць, дык тады, калі датычыць знаёмых, то оды-шаржы... Ну, не! Кожнага, каго кране Сідарава вострая піка, ці таго „адваката д'ябла і наменклатуры", што „цяпер у праведных халтурыць", ці „белавежскага яснага сокала", што „пазіраў на ўсё звысоку", ці „катэхэта заслужанага", ці „ўзаемапакусваннем затузанага", „махляра, нахабніка і хамута" ці тых, што для ўлады „кантракт заключыць збіраюцца з чортам", — то калі яны маюць яшчэ хоць крыху сумленнасці і не пазбыліся здаровага беларускага сялянскага розуму, Сідаровы словы іх „рушаць". Глядзіце, людзі, на ўсе вашы „пустаменты" і „блазнаў-герояў".

У „Гасцёўні" Сідар чапае сваіх сяброў-„белавежцаў". Пародыі-рэцэнзіі-шаржы на іхнія асобы і творы надзвычай трапныя. Хто, можа, прыкусіць губу, а хто засмяецца. Усё залежыць ад уласнага пачуцця гумару і гонару. Чалавек з гонарам умее смяяцца. А ратуй нас, Божа, ад:

*...карыфеяў і ветрагонаў,*
*Дзялкоў прыблудных, пампезных*
*гномаў.*
*Ад лаўкачоў, казачных мафій,*
*Каварных шокавых тэрапій,*
*Задухі собскай і неафітаў,*
*Гіпнозу ўлады і новых міфаў.*
*Ад чужых ідалаў ратуй, Усявышні,*
*Каб з слугавання ў свет мы выйшлі...*
***Ад самаедства ратуй нас, Божа.***

Што *ўбачыць рэшта*, дарагі Сідару? Ці толькі *дзівака з іншых вымярэнняў*? І так задоўга Ты чытаў свае вершы *белавежскім соснам*, а не нам, невядома чаму хаваючы свой скарб.

**Вандал Арлянскі**

---

Сідар Макацёр, *Макатразмы*, Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Беласток 1997.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Прыгоды Бульбінкі

У горадзе К. жыла дзяўчынка. Звалі яе Ала. На яе дзень нараджэння прыехаў дзядуля з Беларусі і прывёз у падарунак сваю, беларускую ляльку — Бульбінку. Дзяўчынцы спадабаўся падарунак, і яна паставіла яго ў шафу, дзе былі яе цацкі: любіміца дзяўчат Барбі, кот Маркіз, шчанок Крончык, лялька Туці, чабурашка.

...Калі настала ноч, у шафе пачалася валтузня, бо, як вядома, цацкі ажываюць толькі ноччу. Хутка ўсе пазнаёміліся і пасябравалі. У Бульбінкі быў куфэрак, адкуль яна даставала розныя рэчы. Адтуль жа яна дастала і падарункі сваім новым сябрам. Ляльцы Барбі падарыла Бульбінка прыгожую сукенку і каралі, Маркізу чырвоную стужку, Крончык атрымаў цукровую костачку, апельсін дастаўся чабурашцы. А потым Бульбінка дастала кнігу і сказала:

— Гэта легенды майго краю.

— Пачытай нам, — закрычалі ўсе хорам.

— Добра, слухайце. Першае паданне пра палескую раку Морач.

...Даўным-даўно ў лесе жыў стары ляснік са сваёй унучкай. Сваю ўнучку ён называў Марачкай. За тое, што яна часта ў вольную хвіліну ўцякала з дому да рэчкі і гадзінамі сядзела там, марыла пра сапраўднае мора. Але Марачка не забывалася і пра свой край. Яна любіла родны лес і ўзімку, і вясной, і ўлетку, і ўвосень.

Час ішоў. Стары ляснік памёр. Марачка ўдала спраўлялася з гаспадаркай, а ў нядзелю хадзіла ў вёску.

Аднойчы Марачка ўбачыла ў вёсцы прыгожага хлопца і адразу ў яго закахалася. Гэта было ў ноч на Івана Купалу. Пасля ўсё часцей Марачка і Андрэй (так звалі юнака) пачалі сустракацца на сваім любімым месцы каля ракі, на вялізным камені пад вярбою.

Прайшоў месяц. Усё было б добра, каб не здарэнне ў краме. Хтосьці сказаў Марачцы, што Андрэй хутка жэніцца з самай прыгожай дзяўчынай з вёскі. Марачка пабегла ў лес. З таго часу яе ніхто не бачыў. А Андрэй, калі даведаўся, што здарылася з яго каханай, доўга шукаў дзяўчыну, а потым пайшоў да каменя ля рэчкі. Там ён заўважыў цудоўную кветку, якая гойдалася на хвалях. Гэта быў белы гарлачык.

Рэчку, дзе любіла сядзець Марачка, пачалі называць яе імем, а з цягам часу — Морачу. Белы гарлачык людзі, на жаль, не змаглі ўратаваць, і ён цяпер сустракаецца вельмі рэдка.

На наступную ноч Бульбінка прадаўжала чытаць легенды.

— Салігорск — горад Мінскай вобласці, — пачала Бульбінка. — Вакол горада пабудаваны чатыры камбінаты. Яны здабываюць з глыбінь зямлі калійную соль. Адсюль і пайшла назва горада. Вучоныя лічаць, што раней тут было мора. Пра гэта мора існуе легенда.

— А сапраўды, адкуль там узялося мора? — спытала Туці.

— Слухайце далей, — сказала Бульбінка.

...Даўным-даўно на Палессі жылі дзве сяброўкі, дзве князёўны — Алёна і Маша. У Алёны была прыгажуня дачка Яна. А ў Машы — сын Серж, самы дужы і прыгожы хлапчына. Калі Яне і Сержу споўнілася па 20 гадоў, яны пажаніліся. Княствы аб'ядналіся і пачалі звацца „Краінай Белых Буслоў". Шчасліва жылі Яна і Серж. У іх падрастала дачушка Яся...

Аднойчы прыбег ахоўнік з рубяжоў княства і паведаміў, што на іх рушыла незлічонае войска ворага. Князь хутка сабраў сваё войска і пайшоў насустрач захопнікам. Але не змагло ўстаяць войска князя Сержа супраць войска іншаземнага хана. Яго разбілі, а сам князь недзе знік. Чужаземцы ўчынілі вялікі разбой на тэрыторыі „Краіны Белых Буслоў". Задаволеныя, адышлі на Усход, захапіўшы з сабой княгіню Яну і маленькую Ясю. Праз колькі часу вярнуўся на радзіму Серж. З гора ён не ведаў, што рабіць. Сумаваў па сваёй дачцэ і па каханай Яне. Даведзены журбою да адчаю, ён утапіўся ў рэчцы, што цякла за палацам. Праз паўгода вярнулася на радзіму Яна. З дапамогай служанкі ёй удалося ўцячы з палону. На месцы, дзе стаяў палац, яна ўбачыла адны руіны. Людзі расказвалі, што здарылася з Сержам. Яна доўга смуткавала па сваім мужу, плакала. З цягам часу на месцы палаца ўзнікла вялікае мора, а княгіня ператварылася ў чорнага бусла. Яна і сёння смуткуе па мужу, лётае над палескім краем. А мора стала не такім шырокім і глыбокім, як раней, і завецца цяпер Салігорскім вадасховішчам.

**Іна Мялешка, 9 клас**

*(Казкі дзяцей Беларусі)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Twarz konia | | Motyw / Recenzja | | Czapka / Park | |
| Budka | | | | | |
| | Etap | | | | |
| | Cyrk / Drzewko | | | | |
| | | | | | |
| | Błękit | | Akrobata | 📖 | 📖 |
| | | | | | Chmura |
| Akapit | | | | Liczba | |
| | | | | Komórka z wosku na miód | |
| Szlachcic białoruski | | Osa | | | |
| Zguba, strata | | Knieje, bór | | | |
| | | | | | |
| Dotyk | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 16:**

яд, каштан, мошка, башмак, алтар, чара, як, матч, кош, кашмар, шкала, такт, ар, янтар.

Узнагароды (запісныя кніжкі) выйгралі: **Андрэй Чарнякевіч** з Нарвы, **Эмілія Місяйчук** з Чыжыкаў, **Рэната Харытанюк** з Барка, **Аня Анхім** з Сушчы, **Данель Свентахоўскі** з Гайнаўкі, **Юліта Тамчук** з Дубяжына.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.



*IX Сустрэчы ставілі за мэту прывіваць любоў да кніжкі і вартаснага фільма.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ёсць матчына любоў

*Музыка Зміцера Яўтуховіча*
*Словы Юрася Свіркі.*



Ёсць матчына любоў,
Яе не зблытай
З ніякай, бо няма нідзе такой —
Пяшчотнай, бескарыслівай, адкрытай.
Шчаслівы ты, пакуль яна з табой.

Ёсць матчына любоў.
Яна спрадвеку
Была, як спадарожніца жыцця.
Ці прыгажун ты будзеш, ці калека —
Ты для яе — любімае дзіця.

ПРЫПЕЎ:
Ёсць матчына любоў.
Яна нам свеціць у далёкай старане.
І колькі б я ні жыў на гэтым свеце,
Любі адною — матчынай — мяне.

Ёсць матчына любоў.
Яна умее
Сваіх дзяцей на подзвіг бласлаўляць.
І на вяртанне берагчы надзею,
І не стамляцца ўсё жыццё чакаць.

ПРЫПЕЎ: 2 р.

Талон „Зоркі" № 20
18.05.1997



*Удзельнікі IX Сустрэч і Ала Сяткоўская ў нарваўскай бібліятэцы.*

# IX Сустрэчы „Зоркі”

**У днях 2—4 мая гг. у Нарве праходзілі IX Сустрэчы „Зоркі”. Гэтым разам мы знаёміліся з відам журналісцкага жанру — рэцэнзіяй. У мерапрыемстве ўдзельнічала 25 асоб — школьнікі з бельскай „тройкі”, з Дубіч-Царкоўных, Беластока, Чыжоў, Гайнаўкі, Храбалоў, Новага Корніна, Курашава і Нарвы.**

На аўтобусным прыпынку ў Нарве прывітаў нас плакат мясцовага дома культуры. Паказалася, што сустрэчы „Зоркі” адкрываюць культурны сезон у Нарве. Такая добрая навіна прадказвала цікавую пабыўку. Ужо першага дня мы сустрэліся з галоўным рэдактарам „Нівы”. Спадар Яўген Мірановіч расказваў пра пісанне рэцэнзіі на кніжку. Наш госць сцвердзіў, што большасць удзельнікаў ведае ён са старонак „Зоркі”.

— Вашы рэпартажы, легенды, літаратурныя спробы вельмі займальныя, — пахваліў маладых карэспандэнтаў галоўны рэдактар „Нівы”.

Першы дзень „Сустрэч” завяршыўся пластычнымі заняткамі. На працягу вечара мы размалёўвалі кашулькі. Зараз на Беласточчыне паявіліся прыгожыя, насычаныя жывой экспрэсіяй мастацкія кашулькі з „Зоркай”. Усе нашы сябры паабяцалі расслаўляць іх у сваіх школах.



*Размалёўванне кашулек з „Зоркай”.*




*Сустрэча з галоўным рэдактарам „Нівы” Яўгенам Мірановічам.*
*Шпацыр берагам Нарвы.*

Пры нагодзе высветлілася, што некаторыя не любяць „рускіх літар” і чорныя кашулі малявалі для маскіроўкі сінім колерам. Вось якія праблемы маюць васьмікласніцы! Аднак спалучэнне сіняга і чорнага колераў выклікала ў большасці вясёлы смех.

У суботу мы наведалі мясцовую бібліятэку. Прывітала там нас спадарыня Ала Сяткоўская. Гэта яна паклапацілася, каб нашы „Сустрэчы” апынуліся ў спіску нарваўскіх культурных мерапрыемстваў. Ад спадарыні Сяткоўскай мы даведаліся пра нарваўскую бібліятэку, яе філіялы ў Трасцянцы і Ласінцы, мясцовае зацікаўленне кнігамі. Дадатковым атракцыёнам нашай сустрэчы было і тое, што гаспадыня гаварыла на беларускай мове і заахвочвала маладых калег пасябраваць не толькі з польскай але і беларускай кнігамі. Думаю, што ўсім было прыемна пачуць, калі спадарыня Сяткоўская назвала сярод самых выдатных чытачоў нашу сяброўку „Сустрэч” Аню Садоўскую.

Пашанцавала і надвор'е. Стаяў цёплы свежы дзень, майская вандроўка берагамі Нарвы спрыяла добраму адпачынку. Усе любаваліся прыгажосцю краявіду.

У той жа час, калі большасць бадзялася і цешылася прыродай, нашы працавітыя сяброўкі варылі абед. Дзякуючы гасціннасці сям'і Кучэўскіх мы мелі нагоду з'есці гарачую страву. Нашы дзяўчаты зварылі смачную макарону з таматным соусам.

Пасляабедні час мы прысвяцілі рэцэнзіі на фільм. Наш чарговы госць і дакладчык Янка Максімюк пазнаёміў з асновамі пісання рэцэнзіі на фільм. Як прыклад прапанаваў ён амерыканскі фільм Джорджа Касматаса „Кобра”, у якім галоўную ролю іграў Сільвестр Сталоўн.

Пасля фільма ўдзельнікі супольна задумваліся над элементамі і сюжэтам рэцэнзіі. Каб заахвоціць нашых сяброў пазнаёміцца з гэтым нялёгкім відам журналістыкі, рэдакцыя „Зоркі”абвясціла конкурс на найцікавейшую рэцэнзію на кніжку або на фільм. Пераможцы будуць удзельнікамі тыднёвых „Сустрэч”. Таксама наш госць Янка Максімюк уфундаваў сваю ўзнагароду — польска-беларускі слоўнік.

Вечарына мінула незаўважна. На ёй, традыцыйна ўжо ліліся незабыўныя песні, жарты і танцы. Шкада, што „Сустрэчы” так хутка мінулі! Да чарговага спаткання на „Сустрэчах”, сябры!

**Ганна Кандрацюк**

Рэдакцыя „Зоркі”, удзельнікі і бацькі дзетак сардэчна дзякуюць нашым **спонсарам:**

**Польскаму фонду дзяцей і моладзі, фірме „Данута” з Беластока і Антаніне Крукоўскай з Бельска-Падляшскага.**

Ахова сваёй зямліцы — гэта ахова яе душы.

# Свята зямлі ў Рыбалах





↑ Удзельнікі літаратурнага мантажу.
↑ Пастаноўка тэатра лялек.

Не паспелі малыя рыбалаўскія „акцёры" вярнуцца з Кляшчэляў, куды ездзілі з настаўніцай Ёляй Мордань і кіраўніком Дома культуры Лідай Мартынюк на агляд дзіцячых тэатральных калектываў, як трэба было выступаць ізноў. На гэты раз — у роднай школе, 22 красавіка, на свята зямлі.

У школе ў Рыбалах гэта свята святкуюць штогод. Дагаварваюцца з лясніччым і прыбіраюць у лесе, робяць парадкі на аўтобусных прыпынках, уздоўж шашы, ва ўсёй ваколіцы.

На гэты раз дзеці ўжо ў панядзелак прыбралі аўтобусныя прыпынкі ў Паўлах, у РСП-Рыбалы і ў саміх Рыбалах. Сёння збіраліся парадкаваць бліжэйшае наваколле, а яшчэ крыху пазней — лес. Ну, але спачатку мелі адбыцца ўрачыстасці ў школе.

У рыбалаўскай падставовай школе сёння 116 вучняў, лічачы і „нулявы" клас. Школьны аўтобус прывозіць дзяцей з Паўлаў і Давідавіч. Маршрутнымі аўтобусамі, так званым „пэкаэсам" даязджаюць раніцай дзеці з Канюкоў і Цялушак, але назад, дахаты, і іх развозіць школьны аўтобус.

У школе навучае дзесяць настаўнікаў, да таго трое катэхетаў: праваслаўнай рэлігіі вучаць бацюшка Рыгор Сасна і псаломшчык Янка Бурнос, а каталіцкай — маладая студэнтка, якая даязджае з Беластока.

Прыкрасць якая: на гэтульку дзетак беларускую мову вывучае ўсяго 30 асоб, а газеты „Ніва" ў школе выпісваюць так мала, што сорамна і пісаць — усяго два экземпляры. Але калі настойліва звяртаешся да дзіцяці па-беларуску, яно табе адкажа на сваёй гаворцы.

Сёння і літаратурны мантаж, і тэатр лялек у выкананні школьнікаў звязаны з аховай прыроды. Праграма — наскрозь экалагічная. Мастацкія працы, прадстаўленыя дзецьмі на конкурс, іх малюнкі паказваюць трагічную сітуацыю прыроды, нашага наваколля ў гэты век тэхнічнага прагрэсу.

У рыбалаўскай школе няма святліцы, на рэпетыцыі дзеці бегаюць у Дом культуры, які стаіць насупраць. Сёння яны выступаюць у школьным калідоры, дзе адбываюцца і заняткі па гімнастыцы, і паказваюцца выстаўкі прац школьнікаў. Пасля мантажу дзеці пачалі рыхтавацца да спектакля тэатра лялек. Хуценька ўставілі яны параван перад дзвярыма настаўніцкага пакоя, ужо за ім паплылі кардонныя дрэвы, а пасля паявіліся: робат, хлопец, дзяўчына, сабачка, крыху пазней — мышка, птушачка.

Спектакль у выкананні малодшых школьнікаў (Анэта Максімюк, Агата Пашко, Агнешка Іванюк, Агнешка Максімюк, Ася Васілеўская) вучыць не толькі, як трэба шанаваць прыроду, але і што трэба выціраць ногі, мыць рукі.

Тэатрык рыхтавала з дзецьмі кіраўнік Дома культуры Ліда Мартынюк. Сама, разам з дзецьмі, рабіла дэкарацыю, сваімі рукамі зроблены лялькі. „А хто іх апранаў?" — пытаю я. „Самі адзягаліся, — смяецца Ліда. — Дзяцей прывучаю. О, колькі яны маюць ідэй!"

Сёлета ў Кляшчэлях, на IV аглядзе беларускіх школьных тэатраў, тэатрык лялек з Рыбалаў заняў першае месца побач з тэатрам з Гайнаўскага дома культуры. „Што сёлета?! — усклікае Ліда Мартынюк. — Сёлета на аглядзе былі ўсяго два тэатры лялек. Во ў мінулым годзе дык мы занялі першае месца на дванаццаць тэатраў! За атрыманую ўзнагароду хочам паехаць на турнэ па вёсках, зарабіць крыху граша і паехаць на экскурсію, перш за ўсё па бліжэйшай ваколіцы".

Адказная за сённяшнія выступленні дзяцей — настаўніца Вяслава Кандрацюк (яна і рыхтавала з дзецьмі літмантаж), але на ўрачыстасці прысутнічаюць таксама дырэктар школы Яўгенія Грыб, настаўніца Дамініка Бароўская, Ліда Мартынюк, а таксама Кацярына Пура — мастачка з М-ГОКу ў Заблудаве, якая прыехала, каб ацаніць малюнкі вучняў, прадстаўленыя на конкурс.

Дарэчы, мастацкі конкурс спансараваў М-ГОК у Заблудаве. За яго грошы пераможцам конкурсу былі прызнаны ўзнагароды. А найлепшай працай журы палічыла малюнак Эвеліны Уляцюк „Асяроддзе": паранены зялёны лісток, заклеены пластырам, — малюнак просты, але нязвыкла моцны па сіле яго ўздзеяння. Яе сястры Кіры журы за „Сметнік" прызнала другую ўзнагароду, а Данілу Клімюку („Дайце жыць!") — трэцюю. Было вылучана яшчэ пяць прац, аўтары якіх атрымалі таксама ўзнагароды.

Пасля ўрачыстай часткі дзеці пайшлі парадкаваць школьны панадворак. Думаю, што свята зямлі ў Рыбалах выканала сваю ролю.

Вяртаючыся думкамі, аднак, да гэтай імпрэзы, застаецца шкадаваць, што свята зямлі ў школе ў **Рыбалах** не было патрактавана **шырэй**, бо ахоўваць сваю зямельку — гэта не толькі чысціць лясы, парадкаваць аўтобусныя прыпынкі ці заклікаць мыць рукі ды выціраць абутак перад уваходам у родную хату.

Саму гэту **хату** трэба было б паставіць на п'едэстал. Хату — у якой дзіця нарадзілася, дзе яно ўпершыню пачула родную мову бацькоў і дзядоў.

А што з таго, калі тэатрык лялек быў на польскай мове, ды і літаратурны мантаж амаль увесь дэкламаваўся па-польску... Пару, аднак, беларускіх вершыкаў, якія закраліся ў яго, сведчылі аб тым, што ў гэтай школе добрыя настаўнікі беларускай мовы (Ёля Мордань, Яўгенія Грыб і іншыя). Беларускай мове гэтых дзетак маглі б пазайздросціць **многія** нашы ліцэісты з так званых беларускіх ліцэяў.

Думаецца, што варта было б у будучыні свята зямлі пашырыць на прапагандаванне замілавання да роднага.

Ахова сваёй зямліцы — гэта таксама — а мо перш за ўсё — ахова яе душы, свайго „я".

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



Пераможцы мастацкага конкурсу.



Дзеці прыбіраюць школьны панадворак.

# Мая сустрэча з легендай

У студзені, калі я прачытала аб'яву, што ў Міхалове адбудзецца агляд сцэнічнай творчасці „Сустрэча з легендай", падала заяву на ўдзел у ім. Я ведаю шмат легенд, якія расказвалі мне калісь мая бабуля Маланія Бірыцкая, а таксама іншыя жанчыны. Запрашэнне атрымала чатыры дні перад конкурсам, і ледзь удалося паехаць, бо ў той час выпадала мне ісці на працу; добра, што сяброўка згадзілася заступіць мяне.

З Мора трэба мне было выехаць у 5.56, каб у Гайнаўцы ўспець на аўтобус у напрамку Міхалова, які адыходзіць у 7.00. У аўтобусе ўсе гаварылі па-польску, хаця многія ехалі ў вёскі. У Сушчы на аўтобус села многа людзей, якія ехалі ў царкву ў Новую Волю. Загаварыла я з жанчынай, што села побач мяне:

— Усе ў царкву едзеце?

— Так, бо сёння Дзедавая субота.

— Вы з Сушчы?

— Не, з Супруноў. Ад нас у царкву сем кіламетраў; можна ісці праз лес, тудою трохі бліжэй, але сёння сын падвёз, то і чакала аўтобуса. Назад нейк памаленьку пехатою пайду.

— Мусіць маладых у вёсцы няма?

— Амаль усе выехалі, лепшага жыцця захацелі. Цяпер і ў горадзе бяда, але на вёсцы маладым яшчэ горш. Пакуль мы жывем, то яшчэ поле не аблагуе, а як памрэм, то ўсё лесам зарасце.

За Новай Воляй у аўтобусе асталося толькі некалькі чалавек. Выйшла я ў Міхалове і пайшла ў ГОК. Там здзівіліся, што я так рана з'явілася на агляд; пачаставалі мяне чаем. Выпіўшы чай, выйшла я прайсціся па Міхалове. Многа тут прыватных крамак. Крама насупраць Дома культуры, дзе калісь прадаваліся прамысловыя тавары, даўно ўжо пустуе: толькі голыя сцены і абломкі пабітых шыбаў на падлозе. Відаць, не аплачвалася нікому браць будынак у арэнду і адкрываць там сваю нейкую фірму.

Вярнулася я ў Дом культуры. Былі там ужо арганізатары, калектывы з Гарадка, журналісты. Працаўнікі рыхтавалі апаратуру для паказу фільма. Неўзабаве з'явіліся і войт Міхалова з жонкай, якая прачытаўшы праграму спытала, хто такая Ірэна Лукша.

— Вы прабачце, што я пра гэта пытаю, — апраўдвалася яна. — У Міхалове ёсць адна Ірэна Лукша, яна вельмі хворая, а найгоршае ў тым, што яе муж не пераймаецца яе хваробай.

— Вось як! — сказала я. — Калі муж хворы, жонка над ім скача, але муж лёсам жонкі не турбуецца.

Неўзабаве ўсе пайшлі ў кіназалу. Пасля афіцыйнага прывітання выступілі „Расспяваны Гарадок" і „Гродзяне" — абодва калектывы з Гарадка: першы па-беларуску, другі па-польску. Пасля іх былі прадстаўлены легенды: сваю я расказала, а вось прысланыя на конкурс легенды другіх удзельнікаў чыталіся працаўніцай ВААКа.

Мне была прысуджана спецыяльная ўзнагарода, раўнацэнная першаму месцу. Мне было радасна на душы. Але нават калі б і не атрымала ніякай узнагароды, варта было быць на гэтым аглядзе; было багата незабыўных уражанняў, якія астануцца на ўсё жыццё.

**Аўрора**

# З'езд палякаў у Гродне

27 красавіка закончыўся ў Гродне з'езд Саюза палякаў у Беларусі. Прыняло ў ім удзел 270 дэлегатаў ад 30 тысяч членаў. Гасцямі з'езду былі намеснік старшыні Дзяржкамітэта па справах веравызнанняў і нацыянальных меншасцей Іван Яновіч, старшыня „Wspólnoty Polskiej" Анджэй Стэльмахоўскі, пасол РП у Беларусі Эва Спыхальска, улады Гродна і вобласці а таксама польскія консулы з Гродна і Брэста.

Сярод дакументаў, прынятых на з'ездзе быў зварот да вярхоўных улад Польшчы за дапамогай для палякаў на Беларусі ў стварэнні гаспадарчых структур; Саюз прыкладае многа натугі дзеля адраджэння польскай мовы, культуры і традыцый, аднак не хапае капіталу на пачатак гаспадарчай дзейнасці. Другім дакументам быў зварот да вярхоўных улад Беларусі, у якім прыпамінаецца пра нявыканыя абавязацельствы гэтых улад наконт фінансавання польскай школы ў Гродне; Саюз хоча паставіць яшчэ адну школу, у Ваўкавыску. Чарговым дакументам была заява на тэму рэлігійнай сітуацыі ў Беларусі; гаворыцца ў ёй, што называнне каталіцкага Касцёла „польскім" гэта не выдумка, толькі адлюстраванне рэчаіснасці.

**Андрэй Гаўрылюк**

# У нядзелю раніцай

У нядзельны ранак сустрэўся я з суседам:

— Добры дзень, дзядзька.

— Добры, добры, сынок. А магло б быць і лепш.

— А чаму? — пытаю.

— Цяпла няма, і вясна прыйсці не хоча.

— І цяплей будзе і вясна прыйдзе. Пачакайце крыху, а ў цянёк хавацца будзем.

— Каб толькі хутчэй, — уздыхнуў мой сусед і бачу, што ён якісьці неспакойны.

— Ат, наслухаешся што ў тэлевізары брэшуць і злосць бярэ. Заснуць не змог.

— А на каго злуеце?

— На ўсіх і на ўсё. Нічога новага не скажуць, толькі адно і тое ж самае. Цяпер вось, візіт папы рымскага, канкардат і выбары. А далей, як хутчэй ва Унію і НАТО. Аж слухаць надаела. Адно і тое самае кругом, як бы іншых спраў не было, а без гэтых жыць не маглі. Ну, што ж зробіш. Мы пра вясну думаем, як у поле выйсці, а яны свае справы маюць. Пэўна хочуць папе дагадзіць, — сказаў сусед, — вось таму за канкардат узяліся. Хочуць перад візітам папы падпісаць. Падарункам яму паднесці і да выбаршчыкаў падлізацца. А я і так галасаваць на іх не буду. Яны таксама адно гавораць, а другое робяць. Віляюць як ліса хвастом. А яшчэ да уніі пруцца. Уніі, сынок, я маю па вушы. Нам, праваслаўным, брэсцкая бокам вылазіць. Да гэтай пары яе адчуваем. А там, у вярхах, толькі пра унію і думаюць.

— Дзядзька, — перабіў я яму, — новае, заўсёды добрае.

— Так, так, толькі не ўсім, — не здаваўся мой субяседнік.

— Паглядзіце самі, — кажу я яму. — Свет змяніўся, да лепшага жыцця ідзе. Людзі багацеюць, лепш жывуць, аж міла паглядзець. А ў нас што? — пытаю яго.

— Бяда. Як было, так і мала змянілася. Самі за паўвека іх не дагонім.

— Вось хочаш, каб яны дапамаглі. Пэўна, што не дагонім, — згадзіўся са мною. — А за якую цану яны нам дапамагаць будуць? Можа за дзякуй? Яны бачаць, што мы працаваць не любім. Ну — правіць, гандляваць, ашукаць кагосьці, да гэтага мы спрытны. Як кажуць „лепш крыху гандляваць, як добра працаваць". І гэта праўда. Даўней гаварылі, што ўсе крадуць, а Польшча багатая. Толькі тады кралі пакрысе, колькі кішэнь вытрымала. І да чаго дайшло, усе бачым. Цяпер навучыліся красці так, каб сабе хапіла і выкруціцца было за што. А працаваць? А хто там вельмі хоча! Хто да ўлады дарвецца, тады на ранейшую працу не вяртаецца. Адзін пан Валэнса меў намер вярнуцца працаваць, як прэзідэнтам другі раз не выбралі яго. І прылады да працы прыдбаў. Аднак працаваць не пайшоў. Пасаромеўся, відаць. Хто толькі пакаштуе лёгкага хлеба, назад не прыцягнеш. Дзесьці заўсёды ў чынах круціцца будзе. Час ад часу ў тэлевізары паказацца, як бы прыпамінаў, што ён яшчэ жыве. Каб яго, відаць, у выбарах не прамінулі. Я, сынок, сваё адпрацаваў і ў Еўропу не збіраюся. Ну, туды далей, на Захад, — паказаў рукою. — Дажыву ў сваёй Еўропе, дзе нарадзіўся. А некаторыя еўрапейскія вынаходкі да нас самі дайшлі.

— А што ў вас на думцы? — запытаў я старога.

— Хочаш ведаць? Наркотыкі. Чуў аб іх даўней? Не! Напэўна, не. Аднак прыйшлі. Хваробы, якія трудна лячыць, таксама ад іх. Грабяжы ў белы дзень, узрывы самаходаў, вулічныя страйкі, галадоўкі, усялякія веравызнанні, якіх і свет не чуў. Усё гэта з Захаду. Гэта толькі некаторыя навінкі. А што, прызнаеш, што гэта ад іх? Маўчыш. Відаць, праўда. Не адно добра прыносяць. З дабром і зло прыходзіць. Слухаў апошнім часам? — запытаў дзядзька, глядзячы мне ў вочы. — Зброю прадаваць будуць. І то ўсім, як у Амерыцы. Вось тады дзікі Захад будзе ў Польшчы. Я таксама думаю, — загаварыў ён са смехам, — гармату куплю. Як штосьці прыкмечу неадпаведнага на маю думку, тады трымайся! Як грукану, не адзін злякаецца. Каб толькі хутчэй пачалі продаж. На маю думку, тады навошта нам НАТО? Народ сам узброіцца. І хто нам тады што зробіць? І ніхто злавацца не будзе. А так паглядзі — мы ў НАТО, а суседзі з-за ўсходняй мяжы ваўком глядзяць. А навошта нам гэта? Ці спакойна жыць не маглі б?

— Пэўна, што маглі б. Толькі кожны па-свойму думае і да згоды цяжка дайсці. Вось таму і непарадкі, спрэчкі, і не дай Бог вайна. А так як узброімся па-новаму, тады нам ніхто страшны не будзе. А самі мы слабыя. Таму, дзядзька, трэба нам у НАТО. Тады з намі лічыцца будуць. Калі ў грамадзе, дык сілы больш і другія інакш глядзяць. Таму хочам да Уніі і ў НАТО. Даволі бедна жыць і ўсіх баяцца. Вы свой век дажываеце, вам ўсё роўна, а нам яшчэ трэба пажыць. І хто не хацеў бы каб лепш, каб лягчэй, каб штосьці прыдбаць? Не баяцца і не быць залежнымі ад другіх. Даволі намі кіравалі! І што з гэтага выйшла? — бачыце самі, дзядзька. Так хочам жыць, як на Захадзе. Вось таму мы хочам увайсці ў іх структуры. Прыклад з іх браць трэба.

— І ты думаеш, што ўсім будзе лепш? — запытаў мяне.

— Калі шчыра, не ведаю.

— Дык навошта мелеш, — сказаў сусед са злосцю. — Гавары што хочаш, але я ведаю адно. Мяне не пераканаеш. Мяне паўвека пераконвалі і не здолелі. Праўду кажуць... „Бог сваё, а чорт сваё".

Дзядзька плюнуў, растаптаў плявок ды дадаў:

— Лепш пайду. Паслухаю „Перад выхадам у царкву", потым „падумаю" паўкраінску, а пасля і нашы штосьці скажуць.

**Грыша Мароз**

# Канкурс „Сцэнічнае слова"

Сёлета конкурс „Сцэнічнае слова" дзеячы БГКТ вызначылі на дзень 17 красавіка ў Бельску-Падляшскім. На прыпынку ПКП у Моры многа людзей, усе едуць у Бельск, бо сёння чацвер — у Бельску „рынак". А яшчэ ж і вучні ў школы даязджаюць. Калі пад'ехаў „чыгуначны" аўтобус, ледзь усе ўлезлі.

У Бельску аформіла я свае справы ў „скарбоўцы" і паспяшала ў Беларускі ліцэй, бо блізілася ўжо дзесятая гадзіна — тэрмін пачатку спаборніцтваў дэкламатараў. У ліцэі я даведалася, што конкурс праводзіцца ў Бельскім доме культуры. А мне ж трэба яшчэ паведаміць конкурсную камісію, што буду дэкламаваць другія, чым падала ў заяўцы, творы! Заходжу ў пакой камісіі і гавару яе старшыні Янку Сычэўскаму, што буду дэкламаваць верш Уладзіміра Гайдука „Адкрыты ліст".

— А чаму не Міколы Гайдука? — з усмешкай спытаў старшыня.

— Бо ён не піша вершаў, — адказала я.

Хаця не было яшчэ ліцэістаў з Гайнаўкі, камісія рашыла пачынаць агляд пунктуальна. Прысутных прывітаў Янка Сычэўскі і паведаміў, што сярод удзельнікаў, апрача ліцэістаў, ёсць яшчэ дарослая асоба і пажадаў мне поспехаў; некаторыя вучні глянулі на мяне, як на нейкае дзіва. Да таго ж прыйшлося мне выступаць, як прыезджай, першай. Ніколі дагэтуль я яшчэ першай не выступала, ну і расхвалявалася, ды так, што аж два разы збілася з тэксту.

Пасля выступлення пайшла я афарміць пару сваіх спраў і неўзабаве зноў вярнулася. Былі ўжо і вучні з Гайнаўкі. Як выяснілася, выгадней ім было ехаць аўтобусам, што ад'язджае адтуль у 10.50, чым тым, што ў 9.15. Не разумею, чаму раз у год гайнаўскія вучні не маглі выехаць раней.

Пасля агляду ўдзельнікі конкурсу атрымалі пачастунак — пончыкі і аранжаду. Вынікі конкурсу а 14-й гадзіне абвяціў Мікола Гайдук. Калі адбірала я ўзнагароду, прызналася, што яго не пазнала — так моцна змяніўся ён! Ды і ён, у сваю чаргу, сказаў, што не пазнаў мяне.

Вяртаючыся, на бельскім вакзале ўбачыла я хлопца, які год таму прымаў удзел у дэкламатарскім конкурсе, а сёлета не хапіла яму часу і ахвоты на гэта. Вельмі прыкра канстатаваць тое, што калі вучымся ў беларускіх ліцэях, удзельнічаем у беларускіх мерапрыемствах, а калі адыходзім са школы, забываем пра ўсё.

**Аўрора**

# Новыя вершы

**Барыс РУСКО**

## Танец ваўкоў

**1**

Берагі ракі ў вузлах слядоў,
на абрусе снегу танец воўчы
і жменя крыві,
уцалелыя вочніцы.
Смяротны крык у енку трысця.
Не гасне. А зрэнкі ў бляшаных
павеках
гараць прагай —
і млее аблічча варты.

**2**

Зямлю перааралі чырвоныя
каньёны, цана крыві ўсё
таннее, у кастры шкілетаў
святыні і спеў сірэнін,
набрыняў смерцю свет,
а жыццё — болем.
Як разумець мне Твой закон,
Заканадаўца?

**3**

Вольная воля! Прыгожа. Гучыць.
І як недаспелае яблыка творцы!
Ледзь расцвіла — умірае свядомасць.
Розуме, а дзе разважнасць?!
Час не астыў, усё прамінае,
а сэрца дзе Паўсюднасці
праведнай?

**4**

Замерзлай ракою іду. Ахрыпла
сонца. Колькі даказваць:
— Прэч ад крыві! Рака для вады!
Угары брыючы палёт ястрабіны,
зрок убіты ў кожны сантыметр зямлі.
А побач ваўкі над застылай
хрыбцінай.

# Нашы карані

### СП. Ганіцель з Навагрудка

Часта духовымі і палітычнымі кіраўнікамі уніі станавіліся людзі далёкія ад царкоўнага ці касцельнага жыцця, яны выкарыстоўвалі свае пасады дзеля асабістае кар'еры і матэрыяльнага ўзбагачэння. Адным з іх быў Іван **Іосіф Вельямін Руцкі.**

Руцкі нарадзіўся ў 1574 г. у родавым маёнтку Рута каля Навагрудка ў пратэстанцкай шляхецкай сям'і. Бацькі з нейкіх палітычных разлікаў ахрысцілі сына ў праваслаўнай царкве, даючы імя Іван. Вучыўся ён у кальвінскай школе ў Вільні, затым у Карлавым універсітэце ў Празе. Там пакінуў праваслаўе і з радасцю перайшоў у каталіцызм. Закончыўшы філасофскі факультэт, хацеў вывучаць каталіцкую тэалогію. Выпадкова пазнаёміўся ён з дзеячам ордэна езуітаў на Беларусі, і той накіраваў яго ў Рымскую грэчаскую калегію, дзе яго прымусілі вярнуцца зноў у праваслаўе, бо ў калегіі рыхтавалі высокапрафесійных уніяцкіх місіянераў для навяртання праваслаўных на унію. Пасля заканчэння калегіі Руцкі назначаецца рэктарам уніяцкай манаскай школы пры Свята-Троіцкім манастыры ў Вільні і ўсе свае сілы накіроўвае на пашырэнне і ўмацаванне уніі на беларускіх землях. Ён — самы верны і ахвярны памагаты уніяцкага мітрапаліта Пацея ў прымушанні праваслаўных да пераходу ва унію. Ён выдае кнігу *Разважанні аднаго рускага...*, у якой намагаецца пахіснуць фундаменты веры праваслаўнай, ганьбуе яе. У хуткім часе ён ставіцца біскупам і пасля смерці папы Клімента VIII пераходзіць ва унію і разам з Пацеем пачынаюць ствараць па ўзору езуіцкага ордэна спецыяльны ордэн базыльянаў — з такой жа сістэмай вайсковага парадкавання і вайсковай суровай дысцыплінай, з дзейнасцю густой сеткі школаў, якая б перавыхоўвала праваслаўную моладзь у фанатычных змагароў за уніяцтва. Увесь жа ордэн мае працаваць перш за ўсё над перацягваннем праваслаўных ва унію, знішчаць праваслаўную Царкву. Усё гэта Руцкі здзейсніў, калі пасля смерці Пацея ў 1613 годзе сам стаў уніяцкім мітрапалітам і генералам базыльянскага ордэна. Паступова ён амаль усе праваслаўныя манастыры перавёў ва уніяцтва, а іх перарабіў на базыльянскія, у тым ліку і нашу Супрасльскую лаўру. Праз 150 гадоў перад падзелам Рэчы Паспалітай у 1772 г. было іх на беларускіх і ўкраінскіх землях аж каля 150. Многія з іх вялі школы або друкарні, але ўсё дзеля таго, каб рознымі хітрыкамі перацягваць праваслаўных ва унію ды павялічваць сваё багацце. Тады яны мелі каля 20 тысяч паншчынных сялян, а жыццё гэтых гаротных было самае цяжкае. У базыльянскім ордэне было вельмі многа каталіцкіх манахаў, асабліва пасля 1773 г., калі быў скасаваны езуіцкі ордэн і амаль усе езуіты перабеглі ў базыльянскія манастыры. У знішчанні праваслаўя для Руцкага ўсе спосабы былі добрыя, яго выхаванцам быў вядомы злачынца Кунцэвіч. Папа рымскі Урбан у пахвальнай грамаце Руцкаму дзякаваў, што ён перацягнуў ва унію каля 2 мільёнаў праваслаўных. Ён разам са сваімі біскупамі пісаў даносы на праваслаўнае духавенства, свецкіх дзеячаў і праваслаўныя брацтвы, беспадстаўна абвінавачваючы іх у змовах, дзяржаўнай здрадзе, абразе караля, а за гэта пагражала смерць або пажыццёвая турма. Руцкі напісаў многа пасланняў, заклікаў, брашур, дзе аплёўваў праваслаўе, абліваў яго найгоршым брудам, праваслаўных не лічыў людзьмі. За яго панавання праваслаўная Царква на Беларусі і Украіне перажыла найцяжэйшыя часы. Калі ён памёр у 1637 г. усе прынялі гэта як вялікі дар неба, нават тыя ж самыя уніяты.

**Мікола Гайдук**

# Маё чарговае 50!

Я не святкаваў аніякіх сваіх угодкаў. Не склікаў гасцей, каб пагасцявалі і пад п'яную „лавачку" кожны з іх мог пахваліцца ды пераканаць іншых да сваіх жыццёвых дасягненняў, ні слова не сказаўшы, чыю гарэлку п'юць і каўбасу ўмінаюць. Хацеў „урачыста адсвяткаваць" пяцідзесятую гадавіну з дня свайго нараджэння так, каб прысутныя памяталі (а гэта мелі быць не толькі сваякі), як доўга будуць жыць. А здарылася так, што яны нічога і не ведаюць, а я яшчэ маральна не ачухаўся. Матэрыяльна чорт іх бяры, але найгорш баліць тое, што даўся зладзеям. Зрэшты, яны якасьці нада мною заўсёды панавалі.

Калі набліжалася мая гадавіна, мы з жонкай вырашылі адрамантаваць толькі што атрыманую большую і лепшую кватэру. Клава, мая жонка, як кожная прадбачлівая ў тых справах гаспадыня, паставіла 30-літровую бочачку вельмі добрага вінаграду, бо яна абы-чаго не любіць (колькі з гэтага было б віна, не ведаю), нацягалі з СССР семнаццаць з паловай пляшак каньякоў розных марак, купілі дзесяць літраў спірту. Усяго пералічваць не буду, бо напіткі, кава, піроҗнае ў такіх выдатках амаль не лічацца.

Паехаў я ў Грабавец, купіў стодвццацікілаграмовага парсюка. З дваюрадным братам Колем Масальскім закалолі мы яго, а Валя, ягоная жонка, нарабіла каўбас, кішак з грэчневай кашай, пячонкай і г.д. Хто выводзіцца з вёскі з Гайнаўшчыны ці Бельшчыны, таму не трэба гаварыць, якія вырабы ўмеюць падаць на стол нашы жанчыны; каўбаса з часнаком, гарчычкаю ды іншымі прыправамі. Кішка з пячонкай, грэчневай кашай і скваркамі — гэта проста само лезе ў жывот, калі чалавек нават не здолее пасмакаваць у роце. Божа, адны толькі ласункі.

Прыпёр я ўсё гэта дадому загорнутае ў паперу, каб чысценька, ахайна і без пылінкі ў банках пазаносілі ў склеп, дзе яшчэ ляжалі рэчы вынесеныя з кватэры перад рамонтам — боты, паліто, мой афіцэрскі кажушок і многа іншага, нават карнізы. На другі дзень зайшоў я ў склеп, каб пабачыць, што ён пусты. Шчасце, што напярэдадні падвярнулася дачка, то ёй даў з кілаграм гэтай каўбасы. А мы з жонкай не паспелі нават пакаштаваць таго, што госці елі б на маім „свяце".

А вось цяпер, 14 мая, буду адзначаць 50 гадавіну атрымання першага пасведчання — закачэння унтэр-афіцэрскіх курсаў. Гэта была найважнейшая гадавіна ў маім жыцці, бо я, найменш адукаваны хлопец, кончыў гэтыя курсы на 21 месцы сярод 97 элеваў, атрымаўшы званне капрала, аб чым, за калыскай, каровамі ці плугам не пасмеў нават марыць. Я нават баяўся, што ніхто мяне ў войска не возьме.

На пасведчанні, аблямаваным гірляндай са стужкай з надпісам: „Ojczyzna, honor, bezpieczeństwo, ład" прыгожым почыркам напісана між іншым: ... 14 maja 1947 r. ukończył Szkołę Podoficerską przy WBW. Woj. Śl.-Dąbrowskiego z wynikiem ogólnym zupełnie dobrym i uzyskał lokatę 21/97. Далей асенкі. Wyszk. pol. wych: zupełnie dobry, musztra: bardzo dobry, wyszk. bojowe: dobry, wyszkolenie strzeleckie: bardzo dobry, terenoznawstwo: dobry, regulaminy: trójka z plusem. Апошняя ацэнка атрымалася найменшай, бо я не ведаў, як трэба пазнаваць вайсковае пахаванне, а якраз з гэтага прадмета экзаменаваў камандзір батальёна, які апынуўся ва ўнутраных вайсках у выніку ваеннае завеі. Ён быў афіцэрам SS, што пасля яму даказалі і яго пасадзілі. І вось гэты капітан запытаў ў мяне, калі я ўжо на ўсе пытанні камісіі адказаў бойка і без заікання: „Скажыце нам, па чым пазнаецe вайсковае пахаванне?"

— Вайсковае пахаванне пазнаю па тым, што іграе ваенны аркестр і ідзе ганаровая рота! — зноў ўпэўнена адказаў я. Але капітан з гэтым не згадзіўся. Я адмаршыраваў так і не ведаючы, як трэба пазнаваць гэтую цырымонію. Аб гэтым ніхто з нас не ведаў, бо на лекцыях аб чымсьці такім не было мовы. Толькі пасля высветлілася, што камбат хацеў, каб курсант адказаў, што вайсковае пахаванне пазнаецца па тым, што крыж нясе жаўнер.

Прыйшоў момант ўручання пасведчанняў. Уручаў сам камандзір палка маёр Путэчны. Калі дайшло да мяне, дык маёр, доўга трымаючы маю руку, гаварыў: „Віншую вас з агромнай радасцю і асабістым задавальненнем, што вы аказаліся сярод найлепшых курсантаў, заняўшы аж дваццаць першае месца. Гэта ж гонар вам і нам, бо вы не хацелі ісці на школу тлумачыўшыся, што не маеце адпаведнае адукацыі. Яшчэ раз віншую і жадаю поспехаў у далейшай, вайсковай нялёгкай службе".

Мне здавалася, што больш вялікага гонару мне ўжо і не трэба; сам камандзір палка на вачах грамады афіцэраў і амаль ста курсантаў ды дэлегацыі з усіх батальёнаў трымае мяне за руку і гаворыць...

Пасля абеду ўсе курсанты атрымалі пропускі ў горад і разбегліся хто куды. Я адзінока пайшоў у парк Касцюшкі, каб у адзіноце пацешыцца двумя лычкамі на пагонах. Але мне сонца яксьці не так свяціла. Не ведаю, ці гэта быў смог, ці маё жыццё стала перад маімі вачыма. Але гэты кароткі момант прыемнасці я павінен быў адзначаць кожнае пяць гадоў, а не толькі ў канцы. Пасля яшчэ раз сустрэўся я з маім былым камандзірам палка, але ён ўжо быў у званні палкоўніка. Пазнаў мяне і мы абодва ўцешыліся... Я тады ўжо таксама быў камандзірам спецгрупы, але аб гэтым у кніжцы, якая нікога не цікавіць.

**Васіль Петручук**

# Ніхто не дбае

— Усё ідзе на спад, — кажа 46-гадовы пенсіянер з Рудут **Мікалай Троц**. — Калі так будзе далей, вёска травой і лесам зарасце.

У 60—70-х гадах у Рудутах бурліла жыццё, людзі будаваліся. Разбагацелі тады дзякуючы саломапляценню — каробкі для „Цэпеліі" ўся вёска выплятала. Сёння пляцёнкі „не ідуць", склад банкрутуе і нават калі прымае вырабы, дык не плаціць тэрмінова. Адмаўляюцца людзі выплятаць лазовыя кошыкі, бо выраб таннее, а сыравіна — даражэе. Цяпер у Рудутах налічваецца 196 жыхароў, у тым ліку дзесятак бабылёў. Дзейсных земляробаў у вёсцы ўсяго пяць, астатнія — пенсіянеры, якія дажываюць свой век. Ніхто ўжо не будуецца, а пустуючых дамоў не злічыць і ніхто да іх ужо не наведваецца. Старыя паўміралі, маладыя выехалі, пакідаючы аблогам зямлю. Нават тыя, што засталіся ў вёсцы, адмаўляюцца ад зямлі, каб толькі не плаціць высокіх падаткаў за будынкі.

Крама ўжо каторы год закрыта. Прыязджаюць самаходы з таварам, часам па 3—4 аўтакрамы ў дзень, часам ніводзін. Бывае, што хлеба не ўсім хопіць.

Дзесьці прапала актыўнасць жыхароў вёскі, а бесперспектыўнасць даводзіць іх да няверы ў вырашэнне набалелых спраў. Наракаюць тады людзі, што цяжка праехаць па дарозе з Рудут у Тапаркі, што недаконачаны асфальт на дарозе ў Орлю, што паабапал дарогі валяецца смецце, што нехта раскапаў магілу з перыяду I сусветнай вайны і раскінуў косці. Некаторыя, напрыклад, чакаюць, каб улады прачысцілі мосцік, бо вада цячэ на панадворак, каб перанеслі буслінае гняздо ў іншае месца, бо птушкі забруджваюць агарод. Ва ўсіх сваіх нягодах абвінавачваюць яны Гмінную ўправу, войта...

— І так жывем, — крыўдуюць вяскоўцы. — У Рудутах ніхто пра нас не дбае!

**Міхал Мінцэвіч**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг;***
***пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

А цяпер давайце пяройдзем на грунт маёй, ужо пасляваеннай вёскі. І варта тут пачаць з таго, што пасляваенная мая і ўсе нашы вёскі былі адсталымі, занядбанымі, запушчанымі. На гэтую адсталасць салідна папрацавалі і санацыйная Польшча, і кароткае тут савецкае панаванне, і нямецкая акупацыя.

Народная ўлада была, канешне, свядомая нізкага ўзроўню развіцця нашых вёсак і абяцала, відаць, і хацела перабудаваць нашу адсталую сельскую гаспадарку і вёску на перадавую. Зрабіць аднак гэта хацела бягом і часта не зусім у згодзе з законамі эканамічнага развіцця. Але толькі некаторыя з нашых часта зьмяняючыхся правячых колаў хацелі перабудоўваць нас і нашу гаспадарку на савецкі спосаб, бо гэты спосаб і быў найдурнейшым з усіх магчымых. На поўную сілу і моц аднак гэты спосаб у нас ніколі не разгарнуўся. Так што ў нашых улад то паяўлялася нейкае там жаданне зрабіць вёску калектыўнай, то зноў яно прападала. Сялянства ж калектывізацыі процістаўлялася заўсёды.

Чаму наш народ не любіў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і не рваўся стаць калгаснікамі?

Прычын таму было некалькі. Паперашае, калектывізацыя ўжо па сваёй натуры працiўная сялянскай душы. Падругое, наш народ многа страшнага наслухаўся пра савецкія калгасы і ўспеў крыху сам пры глянуцца ім у час першых саветаў. Усё гэта пераканаўча адпіхала нашага селяніна ад калгаса.

Чаму ж усё-такі ў нас паявіліся калгасы і калгаснікі?

Прычын гэтаму таксама было некалькі. Па-першае, сярод нашых сялян заўсёды былі непапраўныя аптымісты. Па-другое, гэта былі ўцёкі ад вельмі цяжкіх падаткаў і абавязковых паставак, якія проста заядалі нашых сялян і руйнавалі іх гаспадаркі. Па-трэцяе, каб прынялі ў школу або не выкінулі са школы іх дзяцей. Маглі быць яшчэ і іншыя прычыны, як напрыклад, шахер-махер тыпу: ты ўступіш у калгас, а мы дапаможам табе ці сямейніку твайму выпутацца з крымінальнай справы, якая вісіць над вамі. Адным словам, часцей за ўсё нашы людзі ставалі калгаснікамі не ад раскошы, а з бяды. Канешне, нямала было і такіх, якія запісваліся ў калгас ці арганізавалі яго не дзеля таго, каб самім у ім жыць і працаваць, а каб стаў ён новай ступенькай у іх кар'еры.

Я добра помню тую цяжкую атмасферу, якая навісла над тымі вёскамі, у якіх арганізавалі калгасы. Адзін за другім чарадою пёрлі туды розныя агітатары, якія доўгімі вечарамі і начамі планамерна апрацоўвалі сялянскі калектыў оптам і кожнага паасобку. А найбольш тых, на каго — як кажуць — мелі „гака". Яны дасканала ведалі колькі ў цябе незаплачаных падаткаў, дзе твае дзеткі і не скрывалі, што можа стацца з табой і імі, калі не ўступіш у калгас. Так што многія проста не вытрымоўвалі такой атмасферы і паддаваліся. Гэта было цяжкае выпрабаванне нашаму народу і, думаю, нам цяпер трэба не крытыкаваць тых, хто стаў калгаснікам ці не стаў ім, — як некаторыя з нас робяць, — а толькі паспачуваць ім...

А вось як мой бацька стаў калгаснікам. Ён таксама хварэў усімі тагачаснымі хваробамі, а менавіта: быў непапраўным аптымістам, быў членам партыі, быў кулаком і меў нас, дзяцей, якія канчалі пачатковую школу і хацелі далей вучыцца, а ён з усіх сваіх сіл і сродкаў хацеў вучыць нас. Быў ён вельмі добрым бацькам і разумным чалавекам. Няхай зямля для яго будзе пухам.

Пунктам яго гонару і жыццёвым ідэалам бацькі было даць сваім дзецям навуку і добрую інтэлігенцкую прафесію. Сялянскі лёс лічыў ён цяжкім і няўдзячным, бо надта ж выкарыстоўваюць сялян, нажываюцца на іх і ніхто не лічыцца з імі.

Аптымістам і членам партыі быў мой бацька таму, што моцна верыў у справядлівы і дабрабытны сацыялізм. Кулаком, бо на сваё няшчасце меў звыш чатырнаццаці гектараў зямлі. На той час гэта было многа, вельмі многа. Тадышняя дзяржаўная палітыка не любіла такіх сялян і проста не давала ім жыць. Падатковая прагрэсія накручвала высокія падаткі і штораз большыя абавязковыя пастаўкі. Да канца разлічыцца з дзяржавай не было ніякай магчымасці селяніну-кулаку, а за гэта маглі забраць яго дабро, аставіць сям'ю з пастом, пасадзіць у турму. Але бадай найбольш крыўдным было тое, што дзеці кулакоў не мелі ходу ў навуку. Вось таму ўсе гэтыя хваробы былі так моцна калгасатворчымі. Нават частка гэтых хвароб, думаю, з часам прывяла б і майго бацьку ў калгас. Але пакуль ён яшчэ аднекваўся, паявіўся новы моцна калгасатворчы аргумент, які і стаў пачаткам яго, ужо калгаснай біяграфіі.

***(працяг будзе)***

# Позірк у мінулае

**18 мая**

1899 г. — па ініцыятыве расейскага цара Мікалая II была склікана ў Гаагу першая канферэнцыя, мэтай якое ставілася абмеркаванне і рашэнне праблемаў міру, раззбраення і паляпшэнне ўмоў вядзення вайны. Дэлегаты прынялі тры асноўныя пастановы, галоўнай з якіх было ўстанаўленне міжнароднага трыбунала, апошнія дзве датычылі аблягчэння лішніх пакут падчас вайны.

**20 мая**

325 г. — адкрыццё першага ўсяленскага сабора ў Нікеі. Пасля прыняцця хрысціянства афіцыйнай рэлігіяй Рымскай імперыі, паявілася патрэба выясніць шэраг багаслоўскіх пытанняў, якія па-рознаму тлумачыліся аддзельнымі епіскапамі. У 325 г. імператар Канстанцін склікаў у Нікею сабор дзеля разгляду вучэння александрыйскага прэсвітэра Арыя, які не прызнаваў боскасці Хрыста. Сабор палічыў вучэнне Арыя ерассю і ўстанавіў нормай вучэнне, якое заключаецца ў прынятых там сямі першых членах сімвала веры. Другі ўсяленскі сабор быў скліканы у Канстанцінопаль у 381 г. і асудзіў вучэнне Македонія, які не прызнаваў боскасці Святога Духа. Сабор папоўніў сімвал веры да цяперашніх дванаццаці членаў і ўстанавіў вучэнне аб Тройцы. Трэці сабор, скліканы ў Эфесе ў 431 г., устанавіў вучэнне аб Багародзіцы і адкінуў ерась Несторыя, які лічыў Хрыста толькі чалавекам. Чарговы ўсяленскі сабор у Эфесе быў скліканы ў 449 г. і ўстанавіў, што Хрыстос меў толькі боскую сутнасць. Гэтае вучэнне, названае монафізітствам, было палічана ерассю на саборы ў Халкідоне ў 451 г. Пастановы Эфескага сабора былі скасаваны і чацвёртым у храналогіі палічана Халкідонскі сабор. Пяты ўсяленскі сабор быў скліканы імператарам Юсцініянам I у Канстанцінопалі ў 553 г.; асуджана на ім, насуперак пратэсту рымскага папы, „тры раздзелы" сірыйскіх багасловаў Феадора, Феадарыта і Івы, закідаючы ім сходнасць з нестарыянствам. Шосты сабор, у Канстанцінопалі ў 680—681 гг., асудзіў вучэнне монафелітаў, якія прызнавалі ў Хрыста толькі чалавечую волю. У 692 г. быў нанава скліканы ў Канстанцінопалі той жа сабор, які зацвердзіў рашэнні двух папярэдніх і атрымаў названне Пята-шостага. Сёмы сабор, скліканы ў 786 г. супраць іканаборства, аднак з прычыны варожых адносін сталічнага гарнізона да яго, перанесены ў Нікею ў 787 г. Чарговы сабор адбыўся ў 869—870 гг. і асудзіў канстанцінопальскага патрыярха Фоція, аднак яго рашэнні былі скасаваны чарговым саборам у 879—880 гг. Уфармаваныя пазней каталіцтва і праваслаўе па-рознаму адносяцца да апошніх: праваслаўе не прызнала іх усяленскімі, каталіцтва сабор 879—880 гг. прызнае восьмым усяленскім. Наступныя ўсяленскія саборы склікаліся ўжо толькі рымскімі папамі. Былі гэта: чатыры Латэранскія, у 1123, 1139, 1179 і 1215 гг., два Ліёнскія, у 1245 і 1274 гг., В'енскі ў 1311—12 гг., Канстанцкі ў 1414—17 гг., Базельска-ферара-фларэнцкі ў 1432—49 гг., V Латэранскі ў 1512—17 гг., Трыдэнцкі ў 1545—63 гг. і два Ватыканскія, у 1869—70 і 1962—65 гг. Разам 21 сабор. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Найбольшы з людзей

Усхвалены яшчэ перад нараджэннем,
схаваны перад тыранам.
Галодны многа дзён і ночы,
не ўпадзе перад шатанам.
Чыніць усялякія цуды, моц мае,
ваду ў віно перамяняе.
Жанчына ляжыць цяжка хворая
і мае гарачку,
але сапраўды ўстане з ложка.
як возьме за ручку.
Аб гэтым даведаюцца іншы,
таксама пры ім стануць.
Ці не астануцца здаровымі?
Сапраўды астануць.
Не толькі хворыя, і галодныя людзі
пры ім будуць.
Дасць хлебаў пяць і рыбы дзве,
накормленымі будуць.
О, толькі цудаў чыніць Ён.
Ці гэтага мала?
Вылечыць і тую асобу,
што ў хваробу ўпала.
Над бедным улітуецца,
даўгі прабачыць,
высветліць, што хто больш раздаў,
у Бога больш значыць.
То Ісус Хрыстос — Збавіцель.
Многа людзям даў,
бо яго не сатана,
але Бог паслаў.

**Мар'я Пень**

## Чаму

Чаму ты не прыходзіш
Да мяне ў сваты?
Асталася я на вёсцы
На цябе чакаці.
Умею я кароў даіці
Ды свіней карміці,
Супольна сям'ю створым,
Будзем згодна жыці.
Ты пойдзеш сена касіць,
Я пайду заграбаці,
А старэнька матуля
Будзе дзетак даглядаці.
Прыйдзі, Ваня, да мяне,
Я цябе чакаю.
Як згуляем вяселле
Будзем жыць як у раю.
Зайшоў Ваня ў сваты,
З цесцем дагаварыўся,
Раненька другога дня
З Маняй у ЗАГС памчаўся.
Добра яны цяпер жывуць,
Усе аб гэтым знаюць,
І старэнькую матулю
Шчыра паважаюць.

**Мікалай Лук'янюк**

## Распуста свечкі не паставіць

З мамінага сынка і распусты
Не вырасце добрая капуста:
Будзе з чарвякамі і засмярдзіць,
Што аж сэрца-душа забаліць.
Распусту бацькі не караюць,
На ўсё яму дазваляюць,
У іх ён бажок,
І не бачаць, што расце яму ражок,
І не караюць хулігана —
Гэта праўда, не мана.
Вучыўся на адзінках
І шукаў дзяўчат, памаляваных шмінкай.
„Вагары" — нармальная ў яго справа,
Сталі прыносіць трывожную славу.
Знайшоў сяброў такіх як сам
І стаў бандыт і хам;
Гвалт і забойства
Завяршылі яго „геройства".
У судзе не пакаяўся, як звер.
А бацькам — ён „герой" і цяпер.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астронку, я баюся. Такі сон прысніўся мне, што калі прачнулася, дык проста было гадка.

Не ведаю, у якім я была свеце, але быў ён кашмарны. Усе людзі, якія прысутнічалі ў ім, выглядалі быццам нейкія пачвары. Нават тыя людзі, што былі мне вельмі блізкія і ўжо памерлі, снаваліся, як нейкія цені. Старая, худая і хворая сястра, азызлая мачыха з расплыўшымся жыватом. Нават малады яшчэ і прыгожы пляменнік выглядае нейкі невысокі, яго твар — васпаваты. Твару яго жонкі я не бачу, але бачу, што яна хітруе: бярэ спечанага індыка, здзірае з яго скуру, тады забірае сабе мяска, а ў тую скуру напіхае фарш. Гэтым мае нас частаваць. У памяшканні ёсць кухня, дзе жонка пляменніка рыхтуе пачастунак, а таксама ёсць шмат іншых пакояў, па якіх снуюцца гэтыя дзіўныя людзі, сваякі і нязнаныя асобы.

У канцы сну я бачу нешта агіднае. Адна з вядомых гістарычных асоб, якая, як вядома, памерла ад венерычнай хваробы (гэта быў мужчына) адбывае палавыя зносіны з героем аднаго з апошніх фільмаў, які быў педэрастам. Тая гістарычная постаць выглядала страшна: амаль няма твару, ёсць толькі нейкая сабачая мордка, заклееная блакітнымі бінтамі. Аднак жа ён спрытна завіхаецца каля таго педэраста, падняўшы адну нагу ўверх, быццам сабачка. Агіда, не апішу табе, як гэта страшна выглядала.

Прабач, Астронку, што пішу табе пра такія гадкія справы, але што зрабіць, калі такое прыснілася... Пацяшаю сябе надзеяй, што мо гэтыя кашмары праследавалі мяне з прычыны перамены надвор'я, якое радыкальна змянілася на другі дзень. Бо інакш — дабра не спадзяюся.

**Геня**

Геня! Сапраўды, найлепш зваліць усё на надвор'е. Інакш — замучыш сябе думкамі пра тое кепскае, што цябе чакае.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна**. 2. брудны след, 4. камандная спартыўная гульня, 6. наплечная частка мундзіра, 7. жыхар Казані, 9. медыкамент, 11. афрыканская рака, 12. міфічны юнак, якога Апалон ператварыў у кветку, 13. беларуская мутацыя КПСС, 15. гук, які ўзнікае пры трэнні, 17. небагаты пан, 18. рэзкія, абрывістыя гукі птушак, конікаў, цвыркуноў, 19. японскі аўтамабіль.

**Вертыкальна:** 1. шлюбны абрад, 2. горад у Карэі, 3. квартал і вуліца ў Маскве, 4. ваяўнічы атэіст, 5. мара пра прывабнае, жаданае, 6. Леантына, брытанская оперная спявачка, 8. раніца, 9. напр. сорак, 10. расейскае КДБ, 14. інфекцыйная хвароба скуры і тканак, лепра, 16. прынящце, 17. незамужняя дачка пана. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 13 н-ра:**

**Гарызантальна:** Парнас, Атакама, ляднік, Ларнака, шчотка, пастух, Вайтыла, малако, свісток, сакрэт.

**Вертыкальна:** паклёп, запрос, марабу, палаш, радно, аміяк, чайнік, трыста, асадка, атака, тэатр, хвост.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.

# Знакі на небе

З незапамятных часоў неба лічылася сядзібаю усялякіх багоў. З давён-даўна людзі з увагаю сачылі за рухамі планет, прабуючы разгадаць волю багоў, а з ёю і сваю будучыню. Планеты няспынна мянялі свае месца на фоне зорак, аднак іх рух быў вызначаны прадвечнымі законамі.

Другая справа з каметамі. Паяўляліся яны неспадзявана ў розных месцах зорнага неба і так сама нечакана зніклі. Такія незвычайныя аб'екты людзі лічылі знакамі Божай волі, а калі ў часе іх паяўлення здаралася нейкае няшчасце, пачыналі іх лічыць вешчунамі благога. Яшчэ і сёння, калі разгаданы многія тайны космасу, шмат людзей прытрымоўваецца старых забабонаў, прыкладам чаго — многія самагубствы цэлых рэлігійных сектаў.

**Андрэй Гаўрылюк**



**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1997 r. upływa 5 czerwca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Мянушкі

Вёска наша, як нябога,
Выклікае часам жудзь:
Людзі тут адзін другога
Штось па імю не завуць.

Не ўжываюць тымчасова
Родных прозвішчаў яны —
Больш мянушкі пры размовах
Ува ўсіх дварах чутны.

— Заўтра Гіцаль гоне ў поле.
Сеюць Звяга і Хамут... —
Здзекаў злосная сваволя
Верхаводзіць там і тут.

З-за мянушкі лічыць косці
Сябру сябар у нудзе...
Да Халявы Кныр у госці
З зубам выбітым ідзе...

**Іван Вараўка**

# Гэта абазначае...

*Рыфмаваныя каментары да здымка Славаміра Куліка ў „Ніве" н-р 15 ад 13 красавіка г.г.*

* * *

Не смярдзіць унітаз закрыты,
Ні паўлітар, што не піты,
Толькі здохлы звер адкрыты
І чалавек, доўга не мыты.

* * *

Купіў ён унітаз,
бо патрэбны ёму.
Як выпіў паўлітра,
не данёс дадому.

**Мар'я Пень**




*Мал. А. Гурскага*

# Ніўка

*Мал. Я. Бусла*




## А можа, памыляюся?

Ніколі рэкламы ў газеце я не чытаю, аднак не так даўно вока выпадкова зачапілася за аб'яву ў рамачцы. Паведамлялася: можна нечувана разбагацець. Для гэтага трэба на ўказаны адрас выслаць 50 тысяч рублёў і чысты канверт. Фірма гарантуе, што праз паўгода ўклад павялічыцца як мінімум у тысячу разоў, праз два тыдні паведаміць нумар разліковага рахунку, які адкрые на імя кампаньёна па месцы жыхарства.

Спачатку падумаў: зноў нейкія прайдзісветы-ммммэшнікі, але потым разважыў: надрукавана ў вельмі прыстойнай газеце, а там правяраюць перш чым друкаваць. Дый што там пяцьдзесят тысяч? Бутэлька сухога віна! А тут, калі пашчасціць, можна будзе піць замежныя каньякі.

Рашыў жонцы нічога пакуль не гаварыць. У яе заўжды, калі справа датычыць грошай, праяўляецца прагнасць.

Купіў два канверты, на адным напісаў свой адрас і не без цяжкасці засунуў у другі з адрасам фірмы, паклаў 50-тысячную купюру і запіску: маўляў, буду страшэнна абавязаны вашай салiднай фірме „Пошук". Чакаю і спадзяюся.

Мінуў тыдзень, другі, трэці, а „Пошук" маўчаў, як рыба. Дзесятым пачуццём адчуў, што мяне ашукалі. Не так шкада тых грошай, але ж вельмі крыўдна быць аблапошаным, нібы ты самы апошні дурань.

Праз месяц у паштовай скрынцы ўбачыў падпісаны мною канверт, і першае, што цокнула: а дарма я так кепска думаў пра сумленных людзей.

Схаваўся ад жонкі ў другі пакой, дрыготкімі рукамі разарваў канверт. На малым кавалачку паперы было надрукавана наступная рэкамендацыя:

„Паважаны сябра! Каб стаць багатым, не трэба верыць усяму, што друкуецца ў газеце. Не трэба быць дурнем. Дзякуем за грошы, якія дапамогуць нам пачаць сваю справу.

Не раім Вам звяртацца са скаргай у міліцыю, бо атрымаеце аналагічны адказ".

Прачытаўшы, я нават не абурыўся цынізму гэтых жартаўнікоў. Дзякуючы ім я стаў разумнейшы. А гэта таксама багацце. І калі тая ж газета надрукавала аб'яву, што фірма „Ескувер-Н" здымае імпатэнцыю, я застаўся абыякавым — хлусня!

А, можа, на гэты раз памыляюся?..

**Іван Аўсейчык**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Сустракаюцца два старыя сябры:
— Помніш, як ты, малады, ганяўся за дзяўчатамі?
— Помню, помню...
— А цяпер?
— „Ні бэ, ні мэ, ні кукарэку"!

* * *

Падчас дыскатэкі хлапец намагаецца запрасіць дзяўчыну да танца; яна адмаўляецца:
— Я прыйшла сюды паслухаць музыку, а не танцаваць.
— Цудоўна, калі так! Патрымай тады маю бутэльку з півам, а я тым часам затанцую з тваёй сястрою.

* * *

Падчас танцаў:
— Чаму так мяне прытуляеш?
— Каб у зале было больш месца.

* * *

— Пан пастарункова, хачу заявіць пра згубу майго кашалька, у якім было многа грошай.
— Раскажыце, у якіх акалічнасцях гэта здарылася.
— Акалічнасці тут ні пры чым, бо кашалёк знайшоў суседаў сын.
— Дык чаго вам яшчэ трэба?
— Як гэта чаго?! Трэба знайсці таго суседавага сына...

* * *

Маладое сужонства пакідае кавярню ў прыдарожным матэлі. Падыходзіць да іх афіцыянтка:
— Вы пілі каву ці чай?
— Цяжка сказаць, што гэта было, бо смакавала, як сталярскі клей.
— У такім выпадку — была гэта кава.
— Як вы здагадаліся?
— Бо чай у нас смакуе як салярка.

* * *

— Што гэта такое зямное прыцяжэнне?
— Гэта такі закон, у сілу якога ўсё падае, апрача цэнаў у крамах.

* * *

— Дзе вы апранаецеся? — пытаюць журналісты славутую актрысу.
— У гардэробе.

* * *

Жонка да мужа перад выездам:
— Ці будзеш мне верны ўвесь гэты час?
— Адкуль мне гэта ведаць? Ці я прарок?

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Ведаеш, Сэрцайка, калісь я верыў у вялікія, шчырыя пачуцці. Калі я збіраўся жаніцца, у хаце быў страшэнны скандал. Асабліва непрыхільны майму намеру быў бацька. Маці — як маці, плакала ціха, калі мы сварыліся з бацькам. Але я паставіў на сваім.

Вяселле мне бацькі зрабілі на славу. Было на ім каля ста пяцідзесяці чалавек. Ад жонкі прыехалі толькі яе сястра і маці, грошай ніякіх не давалі, бо ім жылося цяжка.

Мо і гэта мае бацькі мелі на ўвазе, калі папярэджвалі мяне: „Яна табе не пара!" Сапраўды, жончын бацька быў простым рабочым, а маці — прыбіральшчыцай, а мае бацькі належалі да інтэлігенцыі.

Паколькі жонка была з іншага горада, бацькі нас узялі пакуль што да сябе. У адным пакоі жылі мы з жонкай, а ў двух іншых — бацька, маці і брат.

Высветлілася, што бацька мне ніколі не дараваў таго, што я ажаніўся з гэтай дзяўчынай. Была яна такая прыгожанькая, а ён бачыў у ёй толькі прастату і хітрасць. Мы сварыліся з бацькам на кожным кроку, і ўсе ў хаце гэта чулі. Бацьку было цяжка ўспрыняць маю жонку як сваю дачку. Даў ён згоду на шлюб і зрабіў вяселле, бо не хацеў, як гэта акрэсліў, каб яго ўнукі бадзяліся па свеце (дзяўчына была ўжо цяжарная). Адным словам, атмасфера ў нашай сям'і не паспакайнела, а яшчэ больш накалялася. Счапіліся, як два самцы, паўтарала маміна цётка.

Жонка ўсяго гэтага не вытрымала і паехала радзіць да сваіх бацькоў. Я сам яе туды адвёз і быў пры нараджэнні дзіцяці. Вярнулася яна да нас з паўгадовай дачушкай.

Антыпатыя бацькі да маёй жонкі паглыблялася. Не дазволіў маёй маці нават падысці да дзіцяці, памыць пялёнку ці папільнаваць малую, каб мы маглі некуды выйсці.

Найгорш у гэтым было мне: чый узяць бок? Тут мае бацькі, а тут — жонка. Ва ўсім гэтым балагане я неяк закончыў вышэйшую школу, аднак добрай працы ніяк не мог знайсці.

Бацька не ўступаў: умеў жаніцца і абзавесціся сям'ёй, дык умей і зарабіць на яе. Жонка закончыла тэхнікум, але як жа яна магла працаваць з такім малым дзіцём...

Цяпер пачаліся сваркі з жонкай. Ніяк не магла яна звесці канец з канцом. Яе маці часамі нешта купляла нашай дачушцы, дакідала якісьці грош, але гэта не вырашала справы. Зрэшты, у такія моманты жонка яшчэ больш злавалася на мяне, што не ўмею забяспечыць сям'ю.

Нават тады, калі мы аддалі малую ў прадшколле і жонка пайшла працаваць, наша матэрыяльнае становішча не палепшала. Яна хацела апранууцца, выдавала шмат грошай на касметыку, і з яе даходаў у хату не ішоў ніякі грош.

Неспадзявана памёр мой бацька, і ў маёй маці на руках яшчэ застаўся мой брат. Трэба было ўсё паапплачваць, неяк пракарміцца, а з чаго, з адной бабскай зарплаты?.. Тады маці няясмела запытала, ці не маглі б мы хоць крыху памагчы плаціць за кватэру, кошты якой страшэнна ўзраслі.

У адказ на гэта мая жонка звольнілася з працы, узяла дзіця і выехала да сваіх бацькоў. І так ужо было: прыязджала, ізноў выязджала, бо ў нас ёй было кепска. З каханнем таксама нешта пачало псавацца. Мне ўжо яна зрабілася абыякавая.

Між тым я вырашыў нешта рабіць. Мы з сябрам заснавалі гандлёвую фірму, і неўзабаве я пачаў мець даволі значныя даходы. Я купіў нават кватэру і абсталяваў яе. Жонка мая ўжо не выязджала, наадварот, станавілася ў адносінах да мяне ўсё мілейшая. Ну, проста такая салодкая, што аж не хочацца верыць у яе шчырасць. Скажы, Сэрцайка, ці вялікае каханне можа вяртацца за вялікія грошы?

**Антон**

Антон, даражэнькі! Вядома, што можа. Можа за грошы каханне не толькі вяртацца, але і паяўляцца, аб чым папярэджвалі цябе ў свой час твае бацькі.

**Сэрцайка**